






# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 51 (3267) Год LXIII Беласток, 23 снежня 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# «Дэбют» XXI паказаў патэнцыял

Конкурс беларускай паэзіі і прозы «Дэбют» абвешчаны быў яшчэ з вясны. У рэдакцыі «Нівы», арганізатара конкурсу, засакрэчаныя тэксты любіцеляў роднага слова чакалі да апошняга дня кастрычніка. Як штогод на падвядзенне конкурсу ў Беластоку (16 снежня) з'ехаліся не толькі самі аўтары, але таксама іхнія бацькі, дзеці, мужы ці жонкі, настаўнікі і сябры. Часам прыязджае цэлы фан-клуб — як пераможцы конкурсу ў дарослай катэгорыі **Дар'юша Жукоўскага** з падваршаўскага Велішэва, лесніка па адукацыі, аматара жывапісу, заснавальніка мастацкай галерэі ў Варшаве, збіраючай працы найсучасных мастакоў, асабліва з Беларусі, якога можна назваць чалавекам рэнесансу — прыехала на завяршэнне «Дэбюту» вялікая група з Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі, адкуль ён родам, былі і яго сябры з пачатковай школы — пасля конкурсу яны гуртом чыталі новы нумар «Нівы» і падсумавалі, што ўсе шляхі вядуць у «Ніву», хай нават праз дваццаць адзін ці больш гадоў.



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Удзел у чарговым выпуску «Дэбюту» прыняло 52 літаратараў-аматараў з усёй Польшчы, якія прыслалі ў «Ніву» 55 нізак твораў, найбольш паэтычных (па прынамсі тры вершы). Першая група — вучні пачатковых школ і гімназій прыслалі аж 36 канвертаў, тут быў аж 21 дэбютант! Сярод удзельнікаў II групы — вучняў сярэдніх школ (адна вучаніца тэхнікума ветэрынарыі) і дарослых, разам 19 асоб, дэбютантаў было трох. Журы, у якім былі тры члены — старшыня вядомая паэтэса з Бельска **Надзея Артымовіч**, паэт **Юры Плютовіч** з Беластока і літаратуразнаўца і пісьменнік з Гродна **Янка Трацяк**, аднагалосна сцвердзіла, што ўзровень конкурсу быў вельмі высокі і дацаніла пераможцаў. У час урачыстага мерапрыемства 16 снежня 2018 года, куды былі запрошаны ўсе ўдзельнікі конкурсу і іх сябры, а таксама старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, старшыня Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» Ян Чыквін, пісьменнікі і барды з Беларусі (якія былі раней таксама на XXI «Бязмежжы»), былі зачытаны самыя лепшыя творы. Маладыя і старэйшыя аўтары з вялікім хваляваннем прынялі ўзнагароды за свае творчыя поспехі з рук старшыні Беларускага саюза ў Польшчы Яўгена Вапы, не менш узрушанага падзеяй і сустрэчай з гэтымі цікавымі, звычайнымі і незвычайнымі людзьмі.



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

■ Дар'юш Жукоўскі

На працягу конкурсу (пачаўся ў 1996 годзе) прыняло ў ім удзел больш за **950** асоб.

— Самы цяжкі шлях — працаваць у літаратуры, — не першы раз адзначыла старшыня журы **Надзея Артымовіч**. — Гэта значыць настойлівая самастойная праца, быццё ў культуры, і чытанне, чытанне, чытанне! Гэта паўтараю як мантру: чытаць! І думаць. Конкурс дае штуршок сканцэнтраваць свае сілы, дае магчымасць канфрантацыі. Сам друк твораў у „Ніве" з'яўляецца вялікай узнагародай, набілітацыяй. Чакае вас праца, чытанне, праца над сваім беларускім словам. Беспярапынная, настойлівая, бывае што і пакутная праца. Самы цяжкі шлях — працаваць у літаратуры. Беларуская лексіка, беларускае слова гэта крыніца. Чытаць. Па-першае беларуская літаратура, па-другое тыднёвік «Ніва», па-трэцяе радыё — «Рацыя» і беларускія праграмы на Радыё Беласток. Слухаць тых, што добра гавораць па-беларуску. Чытаць будзе той, хто мае патрэбу, вядома, а гэтага не прымусіш, чытаць «Ніву», слухаць радыё. Жывое слова. Іншай дарогі няма. Як дайсці да беларускага слова. А сёлетні выпуск — «тлусты», паказвае патэнцыял, рост, працу. Ёсць таленты! У «Ніве» будуць надрукаваны гэтыя тэксты, не толькі лаўрэатаў. Я на працягу працы пры конкурсе бачу эвалюцыю ў добрым напрамку. Вядома, мусіць гэта мець падпор таленту. Так што віншую ўдзельнікаў і кажу, што гэты выпуск быў вельмі добры.

Чарговы раз шматлюдна (аж 31 асоба) прыслалі свае літаратурныя спробы вучні з міхалоўскай школы (пяць гадоў таму, на XVI «Дэбюце» выступіла была толькі адна вучаніца), у якой аднавілася навучанне беларускай мове; вялікая тут заслуга настаўніцы Эміліі Грыка, якая ўмее заахвоціць вучняў ды і дапільнуе, каб яны паспелі і не забыліся выслаць творы на конкурс. Часам вялізны пакунак з засакрэчанымі творамі вучняў варта прывезці проста ў рэдакцыю, бо як тая пошта ходзіць — часам творы ў лісце з Гайнаўкі ішлі праз... Пруш-Гданьскі. Творы з «Дэбюту», неабавязкова ў гэты раз узнагароджаныя, становяцца народнымі песнямі, як вершы Мікалая Варанецкага з Альхоўкі (спяваюць іх між іншым «Цалгінкі») ці пушчанкі Валянціны Мядзведзь, цяпер з Беластока (гурт «Лайланд»). У гэты раз была ўзнагароджана кароткая проза спадарыні Валі, да якой яна паставілася трохі несур'ёзна. А якраз журы звярнула ўвагу на кароткія формы ў прозе — вылучаны Зінаіда Кандрацюк з Беластока і Люба Саковіч з Міхалова за сваю паэтычную прозу. Надзея Артымовіч звярнула ўвагу асабліва на тэкст спадарыні Зіны «Час». Вылучаная ў дарослай катэгорыі таксама Вера Радзіванюк з Міхнаўкі, найстарэйшая ўдзельніца (85 гадоў), якая, на жаль, па прычыне пагаршэння стану здароўя не змагла дабрацца на завяршэнне конкурсу. Хаця новы войт Нараўчанскай гміны Яраслаў Галубоўскі, падобна як раней Мікалай Павільч, запрапанаваў аўтобус для ўдзельнікаў-аўтараў з усе гміны, які збіраў іх і іх сяброў па дарозе па вёсках, каб завезці на завяршэнне ў клуб «Цэхова». І ён лічыць іх візітнай карткай Нараўчанскай гміны. Недзе чвэрць удзельнікаў было з Нараўчаншчыны, а былі ж і выхадцы з яе, не менш творча плённыя і адважныя. Пяць узнагарод! Узнагароду (II месца) атрымала яшчэ і дзяўчынка з Бандарож Эва Баршчэўская, якая вучыцца ў нараўчанскай школе (так, з гэтых Баршчэўскіх!). Не высыхае бандарская-нараўчанская зямля ў талентах!

Варта адзначыць іншых майстроў на ўсе рукі, апрача пераможнага Дар'юша Жукоўскага. Лаўрэат першай узнагароды — **Лукаш Анхім** (Міхалова). Аказвалася, выдатны малады акардэаніст — выступіў ён перад сабранай публікай з падборкай класічнай і сучаснай музыкі аранжаванай пад гармонію (чула называе яе ў сваім вершы *гармошкай*). Вера Масайла — II месца ў паэзіі — з'яўляецца аніматарам культуры, піша п'есы і ставіць іх з гайнаўскай моладдзю. Наталька Кіндзюк з Лешукоў (III месца) прымала ўдзел у конкурсе пра героя-беларуса і з'яўляецца добрай гаспадынькай у хаце. Усе нашы аматары беларускага слова — і гаспадары ды гаспадыні, настаўнікі, рукадзельніцы, спевакі, крамары, азеляняльнікі гарадоў, хлебаробы і чыноўнікі, і кім рабіў ён у жыцці, не складаўшы рук — усе яны ўзяліся за пяро, іхнія словы дадаліся цаглінкай да нашай хронікі быцця.

Адзначаны таксама настаўнікі, якія заахвочваюць сваіх вучняў да працы са словам. Гэта Анна Кандрацюк са школы ў Нараўцы, Эмілія Грыка з Міхалова, Людміла Сегень і Іаанна Марко з праваслаўнай школы святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

Конкурс «Дэбют» падтрымаў фінансава міністр унутраных спраў і адміністрацыі, узнагародамі — Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства.

Міра ЛУКША





# Карысць
## з нацыяльных традыцый

Квіток з Гародні да Беластока я ўзяў у сераду. Гэта таму, што ехаць збіраўся ў пятніцу. Хто час ад часу ездзіць у Беласток з Гародні мяне зразумее. Для іншых патлумачу, што ў пятніцу набыць квіток непасрэдна на пятніцу бывае праблематычна. Вельмі шмат суайчыннікаў жадаюць наведаць суседнюю дзяржаву менавіта ў гэты дзень. Ну і ў суботу, канешне ж, калі ў многіх беларусаў афіцыйны выходны. А вось нядзеля, таксама выходны, выпадае з графіку беларускага вандроўніка, які мае візу з ганаровай назвай „па закупы". З нядаўніх часоў нядзеля стала непрацоўным днём у месцах масавага адпачынку беларусаў у Польшчы, гэта значыць у супер- і гіпер- і проста маркетах. То чаго туды ездзіць у нядзелю з такой візай? Могуць і завярнуць.

А паколькі я назад збіраўся акурат у нядзелю, таму зваротнага квітка адразу не набыў. Ну навошта сябе прывязваць да канкрэтнага часу, калі ў нядзелю аўтобусы з Беластока ў Гародню і так пустыя ездзяць. Маркеты ж не працуюць. Вазьму ў кожную хвіліну, думаю.

Ды як толькі сеў у мікрааўтобус, адразу пашкадаваў пра сваю неабачлівасць. Мае суайчыннікі высмеялі мяне за маю непрактычную недасведчанасць ды паведамілі, што акурат гэтая нядзеля ў беластоцкіх маркетах будзе працоўная, і ўсе мае спадарожнікі ўжо маюць квіткі на нядзелю і туды, і назад. А неабачлівым можа і не хапіць. Вось так.

Напачатку я ажно адчуў сябе няёмка. Ну як жа так! Я кожны дзень сяджу ў інтэрнэце, цікаўлюся навінамі, ды нават і ў гэты час падарожжа ў левым кішэні маёй камізэлькі ляжыць журналісцкае пасведчанне. Нават два. Адно з самога Бруселя, другое з таго Беластока, пра працоўную нядзелю маркетаў толькі я і не ведаў. А кожная бабуля з мікрааўтобуса, і з таго, дзе ехаў я, і з тых, дзе мяне не было, была добра пра тое праінфармаваная. Пачуццё прафесійнага гонару стала мяне штурхаць на пошук адказу на гэтае заблытанае пытанне. І супакоіла мяне толькі пасля таго, як я высветліў, што ў большасці тых бабулек інтэрнэт у іх мабільных прыладах напрамую настроены на беластоцкую „Галерэю Бяла", ці які іншы здаравенны будынак з разнастайным таварам, на якім пачэпленыя бірачкі з магічным словам „Прамоцыя". Пра іншыя функцыі інтэрнэту ўладальнікі тых мабільных прылад калі і здагадваліся, то лічылі іх не асабліва патрэбнымі.

У нядзелю квіток для мяне ўсё ж знайшоўся. Праўда не адразу, не на бліжэйшы транспарт, а праз некалькі гадзін, што дазволіла аднаму беластоцкаму бару з прыгожай алкагольнай вітрынай папоўніць сваю касу некалькімі дзясяткамі златувак і з маёй кішэні. А ў мікрааўтобус спачатку загрузілі тавар, а пасля ўбачыўшы, што засталося месца для пасажыраў, пусцілі і людзей. Людзі паставіліся да гэтага з паважным разуменнем, тым больш, што тавар належаў ім і быў непасрэдным сэнсам гэтай паездкі.

— Чаму такі ажыятаж? — пытаюся.

— Таму што пасля Новага года нашы зноў абмяжоўваюць увоз тавару, — тлумачаць мне суайчыннікі, паглядаючы як на недасведчанага дурня што ці з месяца зваліўся, ці не быў у Беларусі ўжо гадоў так пад дваццаць.

— Гэта кожны Новы год так, — давodзіць да мяне яшчэ адна жанчына інтэлігентнага выгляду. — Тут і да бабкі хадзіць не трэба, і ў ваду глядзець не варта, і ў інтэрнэт таксама каб пра тое даведацца. Гэта ўжо такая навагодняя беларуская традыцыя стала. На наступны год яшчэ што будзе прыдуманае.

— І што за карысць вам ад гэтых закупаў? — умешваецца ў размову сталага веку стомлены шафёр „бусіка". — Купляеце ўсё без разбору. Яшчэ са склада тавар на цялежках не паспяваюць вывезці, а вы ўжо крычыце: „Маё!!!". Нават не глядзіце што там.

— Што б там не было, усё адно спатрэбіцца, — кажа пажылы мужчына з заклапочаным тварам. — Не нам спатрэбіцца, дык дзецям дастанецца. Усё адно лепш, чым гэтыя грошы прапіць. Ну што б мы рабілі сёння, калі б па тавар не паехалі. Прапілі б гэтыя грошы. А так усе цвярозыя, міла паглядзець.

Пры гэтых словах я ўцягнуў галаву ў плечы і больш не адзываўся. Ну і сапраўды, аказваецца ёсць непасрэдная карысць для сямейнага бюджэту з гэтых паездак. Сапраўды ўсе вакол мяне былі абсалютна цвярозыя. Пра сябе то я не гавару. Але ж у мяне віза не „па закупы", як у іншых, а „культурніцкая". Так што я мусіў неяк выдзяляцца.

Віктар САЗОНАЎ

# Пачатак
## «жоўтага» чалавека

Ніхто яшчэ не палічыў колькасці свіней у свеце. Справа ў тым, што з волі людзей гэтыя інтэлігентныя і адчувальныя жывёлы генетычна адрозніваюцца толькі трохі ад іх саміх, а жывуць да... 100 кг, што складае каля васьмі месяцаў, што не цалкам змяняе апакаліптычнае «сасвіненне» зямнога шара. А мо самой Еўропы. У такой малой Партугаліі папуляцыя кормнікаў ужо перавысіла лік грамадзян гэтай краіны і мае тэндэнцыю да росту. Гэта амаль 11 мільёнаў людзей і яшчэ больш свіней. Такія збалансаваныя суадносіны людзей і свіней праяўляюцца практычна ва ўсіх еўрапейскіх краінах, што зусім не азначае, што еўрапейцы раптам пераключыліся на высокабялковую жывёльную дыету. Наадварот, яны ўсё часцей аддаюць перавагу вегетарыянству або веганству, бо на працягу апошніх некалькіх пакаленняў абжэрліся мясам па самыя вушы. А «мяса» з'яўляецца паказчыкам роскві́ту і дабрабыту цывілізацыі. Еўропа не хоча адмаўляцца ні ад аднаго, ні ад другога. У той жа час узыходзіць да эпохі культурнай і цывілізацыйнай рэгрэсіі, якая, напрыклад, у мааісцкім Кітаі выявілася ў руху хунвейбінаў. Яго еўрапейскім аналагам з'яўляюцца сёння неафашысцкія моладзевыя арганізацыі. І наогул усе папулісцкія рухі. Прыгадаем, камуністычныя краснагвардзейцы з'яўляюцца моладзевай арганізацыяй, якая здзейсніла шматлікія зверствы, катаванні, прыніжэнні і забойствы людзей, якіх палічыла «ворагамі народа». Ворагамі былі ў асноўным тыя нешматлікія інтэлектуалы ў Кітаі. Калі еўрапейскія страўнікі патрабуюць дыетычных змяненняў, еўрапейскія мазгі і не думаюць змяняцца. Як яны былі, так і застаюцца крывадушнымі. Крывадушнасць ляжыць глыбока ў еўрапейскай культуры. У звычаях. У чалавечай ментальнасці. Мабыць, гэта далёкае рэха ніколі не вынесенага прысуду, барацьба паміж чалавечым і боскім, паміж рэальным і ідэальным; рэхам чалавечага сораму. Рэхам бясконцай паразы! Калі не перамагаем, дык прайграваем! Няма прамежкавых станаў у гэтым анталагічным чалавечым пытанні. Так, як няма напаўпраўды, існы праўдзівейшай і самай сапраўднай. Ёсць праўда. Нават Касцёл не вольны ад гэтай крывадушнасці, калі з-за дактрынальных прычын забараняе штучнае апладненне, у той час дапускаючы да смяротнага пакарання. Гэта сапраўды толькі адзін з многіх прыкладаў яго іманентнай дактрыны сораму. Не вольныя ад яе еўрапейцы, гадуючыя свіней. Ужо каля 15% еўрапейцаў адракліся есці мяса, у прыватнасці, свініну ці спажывае яго час ад часу; як гэта ні парадаксальна — чым больш вегетарыянцаў у Еўропе, тым больш расце колькасць кормнікаў. Калі гэтая тэндэнцыя захаваецца, дык можна сабе ўявіць, што Еўропа хутка стане мегафермай свіней, якую будуць утрымліваць шчырыя вегетарыянцы. Гэта быццам бы паклоннікі індуізму, якім забаронена ў ежы ялавічына, сталі сусветным вытворцам стэйкаў. А паслядоўнікі ісламу — сусветным вытворцам свіных кансерваў. Еўропа паступова ператвараецца ў свінаферму для дэмаграфічнага дракона. Неабавязкова толькі з кітайскім радаводам. Партугальскія свінамегафермы створаны дзякуючы кітайскаму капіталу, а іх вытворчасць цалкам засяроджана на кітайскі рынак. Як і кітайскія свінафермы ў Польшчы і іншых краінах Еўропы, якія ўзніклі з капіталу глабальных харчовых карпарацый, якія таксама накіроўваць значную частку сваёй прадукцыі на той самы кітайскі рынак. Мы, еўрапейцы, завем сябе «белай расай», што азначае: вышэйшай чым чорная, жоўтая, чырвоная. На самой справе, становімся парабкамі на кітайскай свінаферме. Мы прайгралі з кітайцамі тэхналагічныя гонкі. Цяпер яны даюць нам «шкляныя пацеркі» электронных гаджэтаў. А мы ім даем чыстае золата — нашу працу. Яе адзіны эфект — гекталітры гною дыхаючага метанам, выжыраючага дзіры ў атмасферы, і грамадскае расчараванне ды пачуццё культурнага ўпадку, заменена рытуаламі прымітыўнага папулізму ўласных хунвейбінаў. Гэты папулізм накіраваны на чалавечую эліту — інтэлігенцыю. Незалежна ад яе расы. Кітайцы ўжо гэта зразумелі. Яны адыходзяць ад філасофіі папулізму. Абмяжоўваюць некантраляваны рост насельніцтва. Інвестуюць у навуку і аднаўляльныя крыніцы энергіі. Аблясіюць аблагі. Ліквідуюць вялікія адкормачныя фермы. Выкарыстоўваюць ворныя землі замест для кармоў, пад вырошчванне збожжавых і гародніны. Клапоцяцца аб натуральным асяроддзі. І аб чалавека. А ў Еўропе мы клапоцімся пра свіней. Усё.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Наша памяць

У час святкавання юбілею Беларускага аб'яднання студэнтаў размовы кранalі не толькі ўспамінаў перыяду нашай маладосці, але таксама сённяшняга дня і будучыні. Сустрэча даўно нябачаных сяброў радавала сэрца і душу. На жаль, некаторых з нас няма ўжо ў зямным жыцці. З некаторымі прыходзіцца сустракацца ў прыёмных перад лекарскімі кабінетамі. От, такое, жыццёвае чаргаванне. Былыя басаўцы — людзі розных прафесій і поглядаў, але ў размовах адчувалася вельмі моцная трывога за нашу гістарычную памяць, асабліва пасляваеннага часу. Пасля суботняй сустрэчы ў панядзелак (10 снежня) маглі мы пабачыць у польскім тэлебачанні дыскусію Алега Латышонка і Сяргея Нічыпарука, якія страціў зводных братоў з рук жаўнераў атрада Рамуальда Райса «Бурага», з рэжысёркай Евай Шакаліцкай і гістарычным публіцыстам Лешкам Жаброўскім. Выказваліся таксама Тамаш Суліма і Яўген Чыквін. Слухаючы размову, не мог я зразумець проста аднаго: чаму для польскага боку смерць нашых нявінных продкаў не выклікае спагады. Адчалавечанне і дэгуманізацыя сталі проста выяўленчым вобразам ведзенай дыскусіі. І калі польская гістарычная памяць для выклятых жаўнераў захоўвае ўсе эмоцыі і цярпенні, то ў выпадку ахвяр тых жа жаўнераў няма проста звычайнага, хрысціянскага спачування. Магу толькі ўявіць, колькі нерваў і здароўя нашым прадстаўнікам каштаваў візіт у тэлепраграме. Пасля чуліся галасы, што трэба адмаўляцца ад удзелу ў такіх праграмах. Аднак такую прысутнасць у польскай, медыйнай прасторы я лічу вельмі важнай справай. Праз магчымасць выказаць беларускі пункт гледжання на пасляваенную завіруху на Беласточчыне ёсць шанц данесці польскаму народу іншую праўду. Нашу праўду.

Таму вельмі важнай і станоўчай з'яўляецца ініцыятыва Фонду «Камунікат» і Яраслава Іванюка, які супольна з Беларускім гістарычным таварыствам пачынае рэалізаваць праект пад загалоўкам «Наша памяць». Праект мае на мэце захаваць для чарговых пакаленняў помнікі тых, хто стаў ахвярай пасляваенных дзеянняў. Таксама важнае, што ў праекце бяруць удзел палякі і беларусы. Як сказаў прафесар Алег Латышонак у інтэрв'ю для Радыё Рацыя, зараз рыхтуецца выстаўка, прысвечаная 73-й гадавіне спалення вёскі Залешаны, дзе будзе яна там прэзэнтаваная ўпершыню. «Паколькі гэта выстава на планшэтах, яна рухомая, то думаем, што будзем яе паказваць у іншых пацыфікаваных вёсках, а таксама ў гарадах, — гаворыць Алег Латышонак. — Хочам пазнаёміць з ёй жыхароў Бельска, Гайнаўкі і Беластока. Выстава рыхтуецца на трох мовах: беларускай, польскай і англійскай. Можа хтосьці яшчэ ў Польшчы захоча паказаць у сябе гэту выставу». Арганізатары праекта цягам мінулых месяцаў займаліся таксама дакументаваннем і апісваннем тых месцаў, якія звязаныя з нашай — беларускай нацыянальнай меншасці — памяццю. Бо трэба яшчэ раз выразна падкрэсліць, што менавіта нашы продкі гінулі як беларусы. Таму, калі хтосьці з чытачоў «Нівы» ведае такія прызабытыя магілы, просім адгукнуцца ў рэдакцыю, ці кантактаваць непасрэдна з аўтарамі праекта «Наша памяць». Проста звычайнае сумленне абавязвае нас усіх не дазволіць забыць сваю гісторыю асабліва тады, калі тая гісторыя яшчэ нясе з сабою кроў, плач і слёзы. А гэтага не можна забываць. Наш абавязак памятаць пра тое ўсё і ў час нашых сямейных сустрэч, таксама і ў надыходзячым калядным перыядзе. Бо калі ў гэтым звышрэкламным свеце, які адбірае ўсю таямніцу і прыгажосць Гасподняга Нараджэння, не паклонімся перад гісторыяй звыш двухтысячнай даўніны і той таксама навейшай, то адабраная памяць можа ўсім нам закончыцца нацыянальнай і духоўнай галечай. А гэтага і так хапае ў сённяшнім дэгуманізаваным свеце. Перад намі час віншаванняў, куццяў, падарункаў. Таму, думаю, што ва ўсім гэтым павінна быць месца і для нашай, беларускай памяці.

Яўген ВАПА

# Ганна Кандрацюк – «Па Прыпяці па Нобель»

Прамоцыя выдадзенай Праграмнай радай тыднёвіка «Ніва» кніжкі «**Па Прыпяці па Нобель**», названай таксама рэпартажам з краіны балот і бурштыну, стала нагодай для сустрэчы яе аўтаркі Ганны Кандрацюк з гайнаўнамі, якая адбылася 7 снежня ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Выпускніца Гайнаўскага белліцэя і беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, ганаровая сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, журналістка «Нівы» і рэдактарка «Зоркі» Ганна Кандрацюк вядомая як аўтарка рэпартажаў, якія перш за ўсё распавядаюць пра жыццё звычайных людзей.

Спатканне, якое праходзіла ў кіназале Гайнаўскага белмузея ў рамках праекта «Кірыліцай пісанае», адкрыла бібліятэкарка Віялета Андрасюк. Распавяла яна пра госцю як аўтарку рэпартажаў, між іншым, з Падляшша, беларускага і ўкраінскага Палесся ды іншых рэгіёнаў Беларусі. Ганна Кандрацюк — аўтарка кніжак «W stronę Tarasiewicza», «Царская трызна», «Дзядоўскае турнэ з Анатолем С.», «Białoruś. Miłość i marazm». Выпусціла таксама кампакт-дыск «Żuryłasie Kateryna» з запісам старадаўніх падляшскіх песень.

— У сваёй кніжцы я пішу пра космас часткі Палесся, распаложанай на Украіне паміж вытокамі Прыпяці і мясцовасцю Нобель. Гэта люстра, у якім бачу наша Падляшша перыяду майго дзяцінства. Я ездзіла на Палессе чатыры гады і, злічыўшы ў цэлае, пабывала там каля сямі месяцаў — так яно мяне захапіла. Люблю сама падарожнічаць, паколькі збіранне матэрыялаў і пісанне рэпартажаў гэта інтымная справа. Падчас самастойнага падарожжа я магла дайсці ў такія месцы і правесці такія размовы, чаго не зрабіла б падчас падарожжа ў кампаніі. У час маіх вандровак вельмі важным было шчасце. Блудзіўшы па невядомай дарозе, я спатыкала цікавых людзей. Жыла ў гатэлях, манастырах, але найбольш зручнымі для незвычайных размоў і збірання цікавых матэрыялаў былі начлегі ў звычайных людзей. На Палессе я ездзіла таксама з сяброўкамі, калі трэба было нешта дапытаць, — гаварыла падчас спаткання Ганна Кандрацюк. — Палессе мне вельмі блізкае і мая кніжка «Па Прыпяці па Нобель» гэта паклон у бок маіх бацькі і маці, у якіх я расла. Пабываючы на Палессі, я сумавала па сваёй Кутлоўцы, па месцах з дзяцінства. Жыву ў Беластоку, а сны сняцца з вёскі, куды мы ездзім на святы і на магілы блізкіх.

Пасля кароткага ўступу госця спаткання папрасіла ставіць пытанні. Было іх так многа, што сустрэча доўжылася каля дзвюх гадзін. Гайнаўскі пісьменнік Міхась Андрасюк папрасіў распавесці пра менталітэт людзей украінскага Палесся.

— Старэйшыя людзі жывуць на Палессі так, як жылі людзі да фармавання нацыянальнай свядомасці. Самыя важныя ім сям'я, сваякі, найбліжэйшае наваколле і, канешне, вельмі важная сувязь з прыродай. Сумавалі яны, што цяпер няма веснавых паводак і ўспаміналі, як маладыя закаханыя пары плавалі на лодках падчас разводдзя. Калі пачалі асушваць балоты і была выкананая меліярацыя ў наваколлі ракі, паводкі, якія былі там раней неад'емным краявідам, сталі вялікай рэдкасцю. На іх недахоп палешукі наракалі так, як у нас наракаюць на засуху. Хаця на Украіне адбывалася рэальная вайна і толькі з адной мясцовасці на вайну пайшло 150 хлопцаў, на Палессі не адчувалася дэпрэсіўнай напружанасці. Заўважыла я спакой і жыццярадаснасць. Жыхары Палесся не былі зрусіфікаванымі, а з 1991 года адбывалася там нацыянальнае выхаванне маладых на ўкраінцаў. Зараз там людзі лічаць сябе ўкраінцамі, але яны ведаюць, што гавараць па-свойму, а не на ўкраінскай мове і мне было лёгка з імі размаўляць, — адказала госця сустрэчы.

Настаўнікам беларускай мовы падчас вучобы Ганны Кандрацюк у Гайнаўскім белліцэі быў Васіль Сакоўскі, якому аўтарка ўручыла новавыдадзеную кніжку. Зараз ужо пенсіянер Васіль Сакоўскі спытаў былую вучаніцу пра канфесійную разнароднасць герояў яе рэпартажу.

— На Палессі, як і ў нашых Дубічах-Царкоўных, жывуць побач сябе людзі розных канфесій, прытым згодна. Найбольш людзей належыць да Украінскай царквы Маскоўскай патрыярхіі, дзе багаслужбы праводзяцца на царкоўнаславянскай мове, а пропаведзі на ўкраінскай. Ходзяць палешукі маліцца ў зборы баптыстаў і пяцідзясятнікаў. Штораз больш людзей належыць да Украінскай царквы Кіеўскай патрыярхіі і да Украінскай аўтакефальнай царквы, а ёсць яшчэ іегавісты. Не спаткала я там уніяцкіх цэркваў. Частка людзей не ходзіць маліцца ў царкву, так як было ў савецкі час, — распавядала Ганна Кандрацюк.



■ Сустрэчу адкрыла бібліятэкарка Віялета Андрасюк і распавяла пра госцю Ганну Кандрацюк



> Я пішу пра космас часткі Палесся, распаложанай на Украіне паміж вытокамі Прыпяці і мясцовасцю Нобель. Гэта люстра, у якім бачу наша Падляшша перыяду майго дзяцінства...

Васіль Сакоўскі пытаў яшчэ пра заробкі і бытавыя справы.

— На Палессі вельмі вялікая розніца ў зарплатах і матэрыяльным узроўні жыцця. Побач бурштынавага мільянера, які ездзіць джыпам, можна ўбачыць чалавека, які пераміяшчаецца на фурманцы. Там адкопвалі паўтара метра зямлі і знаходзілі бурштын больш якасны, чым нават калінінградскі, але здабываецца ён нелегальна. Людзі на Палессі разлічваюць перш за ўсё на дапамогу сям'і, сваякоў і жыхароў вёскі, бо дзяржава не выплачвае грошай на выхаванне дзетак, а заробкі невялікія. Аднак людзі там вельмі працавітыя і зарабляюць на жыццё абрабляючы поле, якога там многа. Некаторыя сем'і выжываюць летам збіраючы ягады і іншыя дары лесу. Калісь палешукі з Украіны ездзілі ў госці да палешукоў у Беларусь, а зараз працуюць з беларускага боку мяжы пастухамі і даяркамі, паколькі настаўнік на ўкраінскім Палессі зарабляе 60 долараў у месяц. Украінскія палешукі не саромеюцца працаваць сваімі рукамі і там дырэктары музея і школы пасвілі кароў, калі прыйшла іх чарга. Хацелі яны паказаць сваю пашану для фізічнай працы і каб суседзі не думалі, што яны вялікія паны, — расказала госця спаткання.

Аб жыцці на Палессі пытаў таксама гайнаўскі мастак Віктар Кабац, а былы староста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк спытаў пра перспектывы для ўкраінскага Палесся на будучыню.

— Едучы на ўкраінскае Палессе я думала, што вёскі там абязлюджаны так, як на беларускім Палессі. Аднак там надалей жывуць шматлюдныя сем'і, як і ў нас жылі ў мінулым. Вёскі там вялікія, напрыклад у сяле жыве 1800 асоб, дзейнічаюць 3-4 рэлігійныя суполкі, 5 бараў, амбулаторыя і нават невялікі шпіталь, а ў школе вучыцца каля трохсот дзетак. Шанцам на будучыню з'яўляецца стаўка на развіццё турызму, паколькі там прыгожыя месцы і нязнішчаная дзікая прырода. На адпачынак людзі прыязджаюць у Свіцезь на Палессі, дзе вельмі прыгожа. Называюць гэтае месца малым Крымам і адпачываюць там цэлы Валынь і цэлая Брэстчына. Здаўна людзі на Палессі гадуюць кароў, займаюцца сельскай гаспадаркай і таму можна было б там зрабіць стаўку на будову прадпрыемстваў па перапрацоўцы ялавічыны і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў і дароў лесу. Там зараз больш за трыццаць долараў бурштынавых мільянераў, але яго нелегальная прадукцыя не дае перспектыў развіцця гэтай галіны. Малады мой суразмоўца марыў, каб выехаць на працу ў Польшчу і быць вадзіцелем аўтафуры. Маладыя выязджаюць працаваць у Расію, Польшчу і іншыя краіны, але палешукі любяць свае родныя вёскі і многія застаюцца жыць дома, — гаварыла аўтарка.

Адказваючы на пытанні з залы наконт абставін ва Украіне, якія тычацца таксама Палесся, госця спаткання сказала:

— Мясцовыя памятаюць пасляваенныя часы, калі людзей прымушалі працаваць у калгасах за невялікія заробкі, забіралі ім пашпарты, каб не выехалі ў іншыя месцы. Старажылы неахвотна гавораць пра пасляваенную Валынскую разню. У адным раёне, дзе жыло 60 тысяч палешукоў, ажно 10 тысяч жыхароў вывезлі пасля вайны ў Сібір і Казахстан, каб усталяваць савецкую ўладу, — сказала Ганна Кандрацюк.

Сярод удзельнікаў аўтарскай сустрэчы былі настаўнікі беларускай мовы: Ганна Кандрацюк са школы ў Нараўцы, Людміла Грыгарук і Беата Кендысь з Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы, Ян Карчэўскі і Ганна Хомчук з Гайнаўскага белліцэя. З гэтымі школамі Ганна Кандрацюк супрацоўнічае як рэдактар «Зоркі». З 1995 года арганізуе яна вучням журналісцкія семінары „Сустрэчы «Зоркі»", у выніку якіх маладыя асобы дасылаюць артыкулы і допісы ў «Ніву» і «Зорку». Настаўніца Ганна Кандрацюк з Нараўкі спытала, між іншым, пра бабуль-шаптух на Палессі.

— Шаптухі на Палессі знаходзяцца пад спецыяльным парасонам і нялёгка да іх дайсці. У рэпарцёрскай працы вельмі важнае шчасце і мне ўдалося трапіць да шаптух і запісаць ад іх доўгія замовы, якія там передаваліся з пакалення ў пакаленне. Там лекаванне зёлкамі таксама адбываецца паводле пераказаў ад продкаў і спяваліся веснавыя песні ў якасці рытуалу ў гонар ракі. Людзі на Палессі жывуць у вялікім сімбіёзе з прыродай і таму так сумуюць, што цяпер не разліваюцца рэкі. Лічаць, што паводкі гарантуюць вялікую колькасць рыбы ў рацэ, добры ўраджай на палях і ў лесе, якога дарамі часта карыстаюцца, — распавядала госця сустрэчы.

Мужчына з залы спытаў яшчэ пра сем'і палешукоў.

— На Палессі вельмі прэстыжна мець многа дзяцей. Сям'я Мартынюкоў, у якой ажно 11 сыноў, карыстаецца вялікай павагай. У іншай сям'і ёсць нават сямнаццаць дзяцей, але там ужо ёсць дочкі. На Палессі захоўваецца яшчэ патрыярхальныя парадкі і сыны важнейшыя ад дачок. Жанчыны там займаюцца домам, выхаваннем дзяцей, працуюць у агародзе і ў полі, як было раней у нашых вёсках у часы нашага дзяцінства. Дзяўчыны выходзяць там замуж рана і калі ў іх паявіцца пяцёра дзетак, мала ўжо думаюць пра сябе, а перш за ўсё пра выхаванне дзетак і таму там нямнога разводаў. Моладзь там асаблівa шануе старэйшых людзей і хутка саступае ім месца ў транспарце. Едучы на Палессе, мы можам там многаму навучыцца. Там вялікая культура бясед і ўзаемнай дапамогі. Жыхары там працавітыя, крэатыўныя і адкрытыя на іншых, а спеў падчас сямейных застолляў у выкананні самавукаў там такі, што чалавек, слухаючы яго, балдзее, — адказала на пытанні з залы Ганна Кандрацюк, якая пазней падпісвала свае кніжкі чытачам.

Удзельнікі аўтарскай сустрэчы, якія ўжо прачыталі кніжку «Па Прыпяці па Нобель», выказалі аўтарцы словы прызнання за ўмелыя назіранні за рэчаіснасцю Палесся, вытрымку падчас шматлікіх падарожжаў і за цікавае і кранаючае сэрца апісанне жыцця звычайных палешукоў.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

# Засталіся адно ўспаміны (49)

Зіма на зломе 1968 і1969 гадоў была апошняй у маёй працы ў Ваяводскім праўленні кіно. І хоць здавалася, што ў брыгадзе нічога не здарылася пасля спрэчкі з шафёрам у Пашкоўшчыне, атмасфера стала няёмкай, напружанай. Я гэта прыкмячаў і таму намагаўся паступаць паводле службовых правілаў. Не мог дазволіць паўторна на памылку, якой дапусціўся ў пачатках працы. На Гайнаўшчыне мне лягчэй прыходзілася спраўляцца з адзіноцтвам. Я меў шмат сяброў і знаёмых настаўнікаў, якіх з'яднаў у час амаль шасцігадовай працы. Прытым з многімі пазнаёміўся, калі працаваў на штаце інструктара ў Гайнаўскім аддзяленні БГКТ. Затым вольны час у школах праводзіў на размовах з настаўнікамі, таксама з жыхарамі сёл, якія пастаўлялі мне навінкі для ніўскіх допісаў. Я ж лічыўся актыўным супрацоўнікам «Нівы». Горш было на Бельшчыне. У Спічках, напрыклад, меў знаёмага настаўніка-карэспандэнта Міхася Матвеюка. Але нашы кантакты з кіраўніком зводзіліся адно да арганізавання ранішнікаў для малеч чатырохкласнай школы. Сеансы арганізавалі ў мясцовай святліцы. У Спічкі ездзілі нядоўга. Няшмат людзей прыходзіла. Падобна справа мелася з сялом Катлы. Хоць вёска невялікая і знаходзілася непадалёк Бельска-Падляшскага, але прысутнасць была добрай. Праўда, школьная зала была невялікая, усяго на сорак гледачоў. Кантакты з жыхарамі ладзіліся аднак у належны спосаб, таму і з ахвотай мы заязджалі ў сяло. Дружылі таксама з настаўнікамі. Прыпамінаю, што загадчыкам школы быў Сцяпан Жужаль. З першых пачаткаў завязалася ў нас сяброўская сувязь. Сцяпан пісаў допісы ў «Ніву». Таму часта вярталіся ў размовах да ніўскага супрацоўніцтва і распаўсюджвання часопіса. З арганізаваннем ранішнікаў у Катлах не было праблемы. Хто з дзетак не меў грошай на білет, дык настаўнікі пазычалі. Прысутнасць на сеансах была стапрацэнтная. У нашай працы гэта лічылася галоўнай справай.

Непадалёк за Катламі знаходзіліся Пасынкі — цэнтр грамадскай рады з пачатковай сямікласнай школай, поштай, вясковай крамай, пажарнай камандай. Тэрыторыя царкоўнага прыхода была разлеглай. І самае важнае — гэта ініцыятыўнае насельніцтва, якое станоўча ставілася да грамадскай працы. На грамадскіх пачатках будавалася пажарнае дэпо са святліцай. З таго, што памятаю, паштовае аддзяленне лічылася лідарам на Бельшчыне ў падпісцы на «Ніву». Пругка дзейнічала маладзёжная жаночая каманда. Сеансы арганізавалі ў школе. На жаль, не прыпамінаю, каб ладзіліся з настаўнікамі асаблівыя кантакты, апрача службовых, таму пасля пяцідзесяцігадовай даўнасці не захаваліся ў памяці ўспаміны.

З Пасынак заязджалі ў Локніцу. Вёска невялікая. Кінасеансы дэманстравалі ў святліцы. Заязджалі, як прыпамінаю ў першых пачатках маёй прафесійнай працы, калі мелі да абслугоўвання больш за пяцьдзясят вёсак. А працавалі мы дваццаць тры дні ў месяцы, а тыдзень адпачывалі дома. Гэта нам гарантаваў закон за працоўныя нядзелі. Таму і меншыя сёлы з невялікай прысутнасцю гледачоў я не прапісваў штомесячна ў маршрут. Так было і з Локніцай.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя словы спачування нашаму рэдакцыйнаму сябру **Аляксею Марозу** і Яго сям'і з прычыны напаткаўшага Яго гора – смерці бацькі – **Рыгора**

**рэдакцыя Нівы**



### Заўвагі з Лапландыі

# Можа, ужо час на свой парламент?

**У канцы лістапада і пачатку снежня я пабываў у Фінляндыі. І асабліва ў яе паўночнай частцы, якая называецца Лапландыя. Займае яна плошчу каля 380 000 квадратных кіламетраў — большую, чым Польшча і параўнальную з Нямеччынай. З 1996 года край Лапландыі знаходзіцца ў спісе Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.**

Мы жылі ў мясцовасці Леві, але наведалі некалькі іншых месцаў. Першай была мясцовасць Рованіемі.

З Беластока (або Сувалкаў — наш полюс халадэчы) па прамой лініі да Рованіемі каля 1700 км . Гэта ўжо вышэй за паўночны палярны круг. Горад Рованіемі з'яўляецца адміністрацыйнай сталіцай фінскай Лапландыі з 1939 года. Сам горад налічвае 58 000 жыхароў, трохі больш, чым Бельскі павет. Ён мае свой уласны аэрапорт, чыгуначны вакзал і Універсітэт Лапландыі ды і Палітэхніку. Брацкім горадам у Польшчы з'яўляецца Ольштын. Вядома, самы вялікі і самы вядомы атракцыён — Вёска Святога Мікалая — Санта-Клаўса. Менавіта тут кожны год алені з Санта-Клаўсам санкамі вязуць падарункі ўсім добра выхаваным дзецям у свеце. Увесь свет быў перакананы, што ён проста жыве ў Лапландыі, хоць на працягу многіх стагоддзяў было вядома, што рэальная сталіца біскупа Мікалая была ў Мірах, якія ў цяперашні час знаходзяцца на тэрыторыі Турцыі. Кожны год яго пошта (адрас: Санта-Клаўс, Паўночны палярны круг, 96930 Рованіемі, Фінляндыя — Santa Claus, Arctic Circle, 96930 Rovaniemi, Finland)) атрымлівае каля 500 000 лістоў з усяго свету. Ёсць таксама ад польскіх і беларускіх дзетак! Практычна амаль усім ён адказвае. Мае дзеці атрымалі калісьці два лісты, на прыгожай паперы і з маркамі з Фінляндыі. Якое ж было здзіўленне, калі мы ўзялі іх з паштовай скрынкі! Рэкамендую такі вопыт для ўсіх. Яшчэ ёсць час, каб напісаць ліст і паспець!

Там было вельмі мала снегу, а затым, і цяплей чым у той час на нашым Падляшшы. З нашага гатэля мы ехалі на машыне да вёскі Інары, яшчэ далей на поўнач. Гэта было чароўнае падарожжа амаль 170 км праз лес! Гэта так, быццам бы з Беластока ў Варшаву ўвесь час ехаць праз пушчу! У нас з Беластока ў Баброўнікі таксама прыгожы маршрут праз Кнышынскую пушчу. Але там — амаль пустыня. На ўсім шляху мы налічылі толькі 16 аўтамабіляў! Ну, і шмат аленяў у пошуках ежы ля дарогі.

Інары гэта горад, размешчаны на поўнач 320 км ад Паўночнага палярнага круга. Гэта горад, звязаны з культурай карэнных жыхароў гэтых зямель — саамаў — лапландцаў. Яны насяляюць у паўночных частках Нарвегію, Швецыю, Фінляндыю і Расію. Яны з'яўляюцца нашчадкамі качавога даіндаеўрапейскага народа, званага лапамі, якія пражывалі на тэрыторыі Фенаскандыі пасля апошняга ледніковага перыяду (10 тыс. гадоў таму). У цяперашні час ацэначная колькасць саамаў на 60-80 тысяч, у тым ліку ў Фінляндыі каля 7 тысяч. Нягледзячы на тое, што яны жывуць у розных краінах, характарызуюцца моцным пачуццём сваёй нацыянальнасці. У іх ёсць свой уласны сцяг, гімн і нацыянальнае свята. Межы краін не мелі для іх значэння. У цяперашні час, асіміляцыйныя працэсы прымушаюць іх да аселага ладу жыцця. Асноўныя віды дзейнасці — паляванне, рыбалоўства і, вядома, аленегадоўля. Сярод лапландцаў жывы фальклор, у тым ліку арыгінальныя каляровы касцюм, спеў рытмічнай формы — так званае ёйкаванне і аздабленне рогу, косці і дрэва. Надалей прысутнічаюць элементы шаманскіх практык і анімістычных вераванняў.

Інары цікавае і важнае па іншай прычыне. Ёсць тут вельмі цікавы музей саамаў (Sami Museum) — Сііда. Ён быў створаны для таго, каб сабраць і задакументаваць матэрыяльную і духоўную культуру саамаў. Мабыць, найбольш цікавым месцам з'яўляецца культурны цэнтр саамаў — SAJOS.

Гэта прыгожы сучасны будынак, у якім знаходзіцца музей, кангрэс-канцэртная зала, стол інфармацыі, сувенірная крама. Існуе таксама радыёстанцыя, выпускаюцца газеты і часопісы. Тут таксама чатыры разы на год збіраецца парламент саамаў. Сцвярджаецца: «У саамаў, як карэннага народа, ёсць моўная і культурная аўтаномнасць, як гэта прадугледжана ў заканадаўстве. Для задач, якія адносяцца да культурнай аўтаноміі саамаў, абіраецца парламент саамаў.” Прадстаўляе ён сабой этнічную меншасць у Фінляндыі. Займаецца мовай, культурай, а таксама прымае рашэнні аб размеркаванні сродкаў для гэтай этнічнай групы. Структурна ўяўляе сабой асобную галіну Міністэрства юстыцыі і з'яўляецца аўтаномным органам у рамках публічнага права. Парламент працуе ў камісіях: правоў меншасцей, адукацыі, культуры, сацыяльнага забеспячэння, аховы здароўя, выбарчай і лінгвістычнай. Складаецца ён з 21 асобы і 4 дэпутатаў, абраных у раёнах пражывання саамаў.

У адпаведнасці з актам Парламента (974/1995, § 3), можа галасаваць чалавек, які лічыць сябе саамам, хто: выкарыстоўвае лапландскую мову або родам з сям'і, у якой адзін з бацькоў ці дзядоў выкарыстоўвае лапландскую мову, з'яўляецца патомкам асобы з рэестра Lapp Sami, па меншай меры адзін з бацькоў меў права галасаваць на выбарах у 1995 годзе або ў лапландскую раду ў 1973 г.У цяперашні час прэзідэнтам з'яўляецца жанчына — Тыіна Саніла-Аікіо. Парламенцкія выбары праводзяцца кожныя чатыры гады.

У час, як я быў там, я стаў разважаць: ці магчыма было б усталяваць Беларускі парламент у Польшчы? Паводле розных звестак, беларусаў у Польшчы пражывае каля 50 тысяч — столькі ж, як і ўсіх саамаў у паўночнай Еўропе.

Нашы продкі здаўна
Перамагалі захопнікаў.
Абараняймася ад іх заўзята.
Нашы землякі, сонца сыны
Ніколі не здадуцца.
Калі даражыш мовай саамаў
Помні запавет продкаў:
Наша зямля саамам!

Дык, можа, ужо час на свой парламент? І гімн?

Тэкст і фота **Дар'юша ЖУКОЎСКАГА**



# Грузія — мая любоў
## (частка 5)

У Вардзію дабіраліся мы з Батумі. Сядалі ў маршрутку без канкрэтных планаў, нічога раней не браніраваўшы. Падумалі сабе, даедзем у Ахалцыхе — сталіцу паўднёвага рэгіёна Самхе-Джавахецція — і там пабачым. Ці яшчэ сёння адолеем дадатковых 50 кіламетраў у пячорны горад, ці знойдзем начлег і паедзем на экскурсію заўтра? Аднае размовы ў бусе хапіла, каб нас на месцы чакалі старыя «жыгулі». Сусед нашай спадарожніцы Вахтанг, аграном на пенсіі, не толькі звазіў нас у Вардзію, але і засяліў у вельмі прыемны гатэльчык, а па дарозе яшчэ нараіў прадаўцоў лакальнага віна. Тыя, у сваю чаргу, сталі мяне намаўляць на куплю дома з участкам зямлі...

Вардзію апісвае кожны турыстычны даведнік. Горад-сховішча ў каньёне ракі Мтквары, на вышыні 1300 метраў над узроўнем мора, стаў будаваць пад канец XII стагоддзя кароль Георгі II, а закончыла яго дачка, каралева Тамара, пры якой Грузія перажыла пік сваёй магутнасці. Больш за тры тысячы выкаваных у скале памяшканняў, трынаццаць паверхаў, цэрквы і склады, тайныя пераходы і ўнікальная сістэма водазабеспячэння дазвалялі жыць там дваццаці тысячам чалавек. У час трывогі магло ў ім схавацца і тры разы больш. Горад у запланаванай форме не праіснаваў і ста гадоў, бо ўжо ў 1283 годзе дзве трэці яго знішчыў вялікі землятрус. А канчаткова абярнулі ў руіну персы ў XVI стагоддзі. Але і тое, што засталося, вартае ўвагі. Можна па ім хадзіць гадзінамі, захапляцца як сярэднявечнай грузінскай інжынерыяй, так і навакольнымі краявідамі. Абы не ўлетку, калі 40-градусная гарачыня можа забіць любы інтарэс да гісторыі. І з умовай, што не баіцеся вышыні, бо ад некаторых праходаў можа закружыцца ў галаве.

Тая ж самая сітуацыя і ў манастырскім комплексе Давід Гарэджа, на мяжы з Азербайджанам. *Я сваім гасцям з акрафобіяй не дазваляю падымацца наверх*, – сказала нам гід, якая спрытна скакала па крутой сцежцы, у той час як мы ледзь дыхалі, трымаліся рукамі за кусты і камяні, і стараліся не глядзець уніз. Пасля яе слоў Аліна прысела і паехала долу, дзе на нагах прысядкам, а дзе проста седзячы. І тры гадзіны глядзела царкву і будынкі заснаванай вучнямі Давіда — аднаго з сірыйскіх айцоў, які ў VI стагоддзі пасяліўся ў адной з тутэйшых пячор і там жа быў пахаваны — лаўры. Мне, пасля Кіліманджара, няёмка было здацца, дык паплёўся ўверх, на хрыбет доўгай гары Гарэджа. Толькі так можна паглядзець унікальныя сярэднявечныя фрэскі мясцовай іканапіснай школы, якія ў пячорах на другім схіле гары, ужо па азербайджанскі бок мяжы (яна папраўдзе ў гэтым месцы дакладна не вызначаная, таму і можна перасякаць яе без візы, але пад пільным вокам грузінскіх памежнікаў). За хрыбтом Гарэджы не толькі чакаюць намаляваныя грузінскія героі і святыя, але і зусім іншы краявід. Калі на поўначы, у Грузіі, прырода пустынная, скала ды пясок, дык на поўдні пад нагамі сцелецца зялёная азербайджанская даліна, над якою кружляюць арлы. Гіды, аднак, асцерагаюць, каб не толькі захапляцца краявідамі, але і ўзірацца пад ногі, бо сустракаюцца там вельмі небяспечныя гадзюкі. Мне яны, на шчасце, не сустрэліся, але вялізная, амаль паўметровая яшчарка моцна такі напалохала, калі звалілася са скалы на сцежку некалькі метраў перада мною.

Дарога ў Давід Гарэджу вядзе праз ні то стэп, ні пустыню. Месцамі асфальт так пакрышаны, што машыны з'язджаюць з яго і шпараць паралельна па грунтавых каляінах. Пасярэдзіне, можна сказаць, вялікага нічога, мясцовасць Удабна. Як па мне, вельмі дэпрэсіўная, з многімі пустуючымі дамамі, разваленымі аборамі ды іншымі гаспадарчымі будынкамі, кінутымі паржавелымі прычэпамі ды касілкамі. *А мне тут падабаецца*, — сказала Аліна. — *Глянь, якая тут прастора*. Відаць дакладна так падумала сужонства з Польшчы, якое пасярод гэтай пустэчы адчыніла пансіён з рэстаранам „Аазіс". Быў гэта стрэл у дзясятку. Навокал не было нічога, дык усе экскурсіі ў іх пачалі спыняцца, а слава пра іх кухню і гасціннасць пайшла па цэлай Грузіі і вялікай частцы Польшчы. Пачалі з іх прыклад браць суседзі ў Удабна, якім таксама хапае турыстаў. Калі мы там былі, то гаспадары „Аазіса" якраз адзначалі гадавіну шлюбу і мелі столькі гасцей, што сімпатычныя барменкі ветліва нас скіравалі да канкурэнцыі.


■ Вардзія


■ У курортным парку ў Баржомі


■ Кукушка Баржомі-Бакурыяні

* * *

Як можа мяняцца прырода Грузіі на адносна невялікай дыстанцыі, добра відаць па дарозе з Ахалцыхе ў Баржомі. Суровыя, пазбаўленыя расліннасці горы ды жоўта-чырвонае пласкагор'е з плямамі сухой, спаленай сонцам травы раптам насычаюцца зеленню. Трава неяк маладзее, робіцца сочнай, а схілы гор пакрывае змешаны лес: дубы, грабы, букі, каштаны, елкі, сосны і шмат эндэмічных каўказскіх гатункаў раслін.

У Баржомі можна памыцца ў лячэбнай сернай вадзе ў царскай лазні і абавязкова трэба паказацца ў курортным парку, паглядзець абноўленыя будынкі часоў найбольшага працвітання мясцовасці, няспешна прагуляцца па зялёных алеях, тое-сёе купіць, з'есці, выпіць. Можна таксама набраць проста з крыніцы славутай вады. Асцерагаю, аднак, што смак яе вельмі адрозніваецца ад тае *баржомі*, якую купляем у крамах. Кажуць, халодную можна выпіць, але я паспрабаваў на месцы і за мною доўга хадзіў ванітны пах серкі і невядома чаго яшчэ. Другі раз каштаваць яе — нават ледзяной — не было ахвоты, хаця я вялікі аматар *баржомі*.

Горача рэкамендую трэкінг у Нацыянальным парку Баржомі-Харагаўлі, распалажаным у Нізкім Каўказе. Многа там сцежак, разлічаных на людзей з рознай падрыхтоўкай. Мы пайшлі на адзін дзень, зрабілі 18-кіламетровы круг, падняліся з сяміста метраў на тысячу дзевяцьсот і як на далоні бачылі пакрытыя снегам вяршыні Высокага Каўказа, да якіх па прамой было кіламетраў семдзесят, а мо і болей. Каб узабраліся яшчэ вышэй, маглі б убачыць і Чорнае мора, аддаленае больш-менш столькі, што і Каўказ. А паколькі былі мы па-за сезонам, у кастрычніку, на шляху сустрэлі ўсяго чатыры пары — восем чалавек. Праўда, ля выхаду з парку група турыстаў з Расеі ехала на конях. Дзяўчаты трымалі фасон — у кароткіх спаднічках, тонкіх калготках і лёгкіх туфліках на абцасе. Во як трэба пакараць горы!

На другі дзень пасля такога шпацыру прыйшлося нам даўгавата размінацца. Ледзь не спазніліся на *кукушку* — вузкакалейку, якая ідзе ў гарналыжны курорт Бакурыяні. Якіхсьці трыццаць кіламетраў яна адольвае за дзве гадзіны, бо падымаецца на тысячу метраў уверх. Першую гадзіну мы сядзелі моўчкі, злосныя на саміх сябе, што зноў прыдумалі экстрым, на які нас ніхто не намаўляў. Потым прывыклі і другую гадзіну прастаялі ў адчыненым акне з фотаапаратам і тэлефонамі ў руках. Тым не менш, уніз спускаліся ўжо маршруткай, якая зухавата брала серпанціны і звезла нас у Баржомі за сорак хвілін.

У Грузіі давялося нам убачыць яшчэ адзін гарналыжны цэнтр — Гудаўры на Грузінскай ваеннай дарозе. Але пра падарожжы па Высокім Каўказе — праз тыдзень.

(працяг будзе)

Мікола ВАЎРАНЮК

Фота Аліны Ваўранюк і аўтара



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# На ўсё патрэбны час

— Поспех у «Дэбюце» сагрэў маё сэрца. І я абяцаю, што падцягнуся, каб лепш гаварыць па-беларуску, — абяцаў пераможца Лукаш Анхім з Міхалова...

Лукаш не памятае ўжо каторы раз удзельнічае ў конкурсе.

— Хіба ад пачатку, — думае ўголас хлапец. — Заўсёды хацеў праверыць свае здольнасці. Пра свае захапленні светам мастацтва заявіў у вершы: «*Калі на гармошцы я граю*» ... бо тады «*цэлы свет гудзе*».

На падвядзенне вынікаў ён прыехаў з любімым інструментам, каб падарыць публіцы канцэрт. А ў кавярні «Цэхова» сабраліся не толькі сябры з Міхалова (адтуль традыцыйна было найбольш, бо ажно 31 удзельнік). Слухалі яго вядомыя паэты і літаратары, дарослыя ўдзельнікі конкурсу, многія журналісты. Раней, разам з Эвай Баршчэўскай, прачыталі ўзнагароджаныя вершы. Для сучасных дзяцей вялікай праблемай з'яўляецца рухомы націск у беларускай мове. Да таго складана ім прышпіліць цікавасць да кніжкі. «Дэбют» — гэта такі конкурс, які натуральна і спантанна адкрывае на літаратуру. Гэта відаць па прыкладзе Міхалова. Сярод удзельнікаў я прыкмеціла Маргарыту Садоўскую з Шымак, мінулагоднюю лаўрэатку. Зараз яна вучаніца сельскагаспадарчагатэхнікумаў Беластоку. Вершы Маргарыты разглядаліся ўжо ў катэгорыі сярэдніх школ і дарослых. Яны пра дарастанне і жыццёвыя выбары. Такі творчы працяг і ўдзел у конкурсе сведчаць пра важнасць літаратуры ў жыцці маладой аўтаркі. Для наймалодшых важныя старэйшыя ўдзельнікі. Яны паказваюць ім шлях, захапляюць ангажаванасцю і любоўю да літаратуры і мовы. Парадавала традыцыйна Нараўка, а найбольш дэбютантка Эва Баршчэўская і яе цудоўны верш «Птушка», які друкуем на сёмай старонцы. Гэты верш — як удзельнікі «Дэбюту»: «*Птушцы ў ключы патрэбныя іншыя, таму што дарогу ведаюць, перад маладымі старэйшыя ляцяць...*». Першы раз да конкурсу прыступілі вучні са школы з Залук і, як ведаем са слоў іх настаўніцы, дзяўчаткі хоць не завявалі месцаў, захоплены ўдзелам. Варта пахваліць іх за адвагу і ахвоту пашыраць свае зацікаўленні. Калі будзе салідная праца — прыйдуць поспехі! Прыклад Лукаша Анхіма паказвае, што на ўсё патрэбны час...

Лукаш Анхім



Эміля Каранкевіч, Уля Шубзда, Юля Грэсь

Настаўніца Эміля Грыка (на першым плане)

Журы XXI выпуску конкурсу «Дэбют» — Надзея Артымовіч (старшыня), Юры Плютовіч і Янка Трацяк, з ліку 36 удзельнікаў першай групы назначылі пераможцаў:

I месца — **ЛУКАШ АНХІМ** з Міхалова,

II месца — **ЭВА БАРШЧЭЎСКАЯ** з ПШ у Нараўцы,

III месца — **НАТАЛЛЯ КІНДЗЮК** з ПШ у Нараўцы,

Вылучэнне — **ЮЛІЯ ПЛЕВА** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

Арганізатар — Праграмная Рада тыднёвіка «Ніва» дзякуе за дапамогу ў падрыхтоўцы вучняў настаўніцам: **Эміліі Грыка, Анне Кандрацюк, Людміле Сегень, Іаанне Марко, Уршулі Шубздзе**. Самыя цікавыя вершы і апавяданні надрукуем у «Зорцы».

Ўжо ў наступным нумары інтэрв'ю з Лукашам Анхімам і яго чароўныя вершы.

**Зорка**
**Фота Ганны Кандрацюк**

## УВАГА КОНКУРС! № 51-18

**Зімой расце**
**коранем уверх,**
**а вясной памірае.**
**Хто адгадае?**
**(Л.....)**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 6 студзеня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 47: снегавыя хмары. Узнагароду, кніжку Свена Нурквіста «Калядная каша», выйграў Дам'ян Карнілюк з КШ № 3 у Бельску-Падляшскім. Віншуем!**

## Конкурс на 100 год БНР — мой герой беларус!

# Прабабуля Марыся (вылучэнне)



Эва Баршчэўская

Маю прабабулю завуць Марыся. Ёй 85 гадоў. У яе сівыя валасы, вялікія сінія вочы і моцна-моцна паморшчаны твар.

Прабабуля звычайна апранаецца ў чорныя штаны і цёплыя, доўгія світары, бо любіць, калі ёй цёпла. На галаве ў яе пераважна каляровая хустка.

Прабабуля Марыся пражыла вайну і цяпер часта хварэе. Заўсёды п'е лякарствы, але вельмі іх не любіць. Яна не паддаецца хваробам і старасці. Не марудзіць і часта ўсміхаецца. Гэта вельмі мілая, добрая асоба.

Для мяне яна аўтарытэт і мая гераіня.

**Эва Баршчэўская,**
*7 клас ПШ у Нараўцы*

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Напышлівы певень

Два пеўні дагаварыліся паспаборнічаць — хто самы галасісты.

Выйшлі на вуліцу і загарлапанілі на ўсё сяло. Урэшце адзін перамог. Ён затрапятаў крыламі, узляцеў на плот і стаў хвастацца сваёй перамогай:

— Я самы лепшы спявак на свеце. Кожнага прабуджу са сну, кожнага падыму на ногі. Як не захапляцца такой сілай голасу? Як не скарыцца перад такім талентам? Як не цаніць такога маэстра-спевака? Як не любіць такога эстэта і прыгажуна?

Калі наш певень-хвалько захапляўся сваімі талентамі і прыкметамі, з неба наляцеў арол і ўхапіў пераможцу. На зямлі засталіся адны пёры, якія следам нядаўняга героя пасыпаліся з высі.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

II месца ў ДЭБЮЦЕ

Эва БАРШЧЭЎСКАЯ
Бандары, ПШ у Нараўцы

### Птушка

Птушцы ў ключы
патрэбныя іншыя,
Таму што дарогу ведаюць.
Перад маладымі
старэйшыя ляцяць,
Яны не пужаюцца
гэтага свету.
У кампаніі заўсёды лепш,
Калі побач бачыш брата.

### Іншы край

Нешта нарадзілася.
Не ведаю, як звалася.
І пайшло паміж дубоў вялікіх,
Дзе ўсюды ёсць нешта цікавае.
Іншае чым наш край.
Іншае.

## Польска-беларуская крыжаванка № 51-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 47-2018:**
Калляднік, гарод, так, тэма, Ас, шумоўка, Аса, календка, каляндар, нос, між, час, пасека, душ. Кат, стоп, арэна, сам, лом, Сі, яда, калеж, шалік, на, Уляна, мена, фонд, ну, таўкач, маскарад, сын.

Узнагароды, святочныя наклейкі, выйгралі **Габрыель Пах, Лукаш Дзюбанос** з Орлі, **Наталля Гайдук** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Тамаш Ваўранюк** з Нарвы, **Патрыцыя Караткевіч, Мішка Станкевіч** з Залук, **Марлена Кандрацюк, Зузя Скрабская** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Дам'ян Аўярчук** з Арэшкава, **Габрыся Ацкевіч** з ПШ № 4 у Гайнаўцы. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Żeby<br>Zając | | Jar | Cykl | Świder<br>Jan | | Sto<br>Ania | | | |
| | | | | Nawój<br>Zamówienie | | | | | |
| Pająk | | | | | Nil<br>Łasica | | | | Sens |
| | Bryza | Kolęda<br>Choinka | | | | | | | |
| | Choinka<br>Wół | | | | | Tak | | | Rok |
| | | | Więzienie<br>Aj | | | | | | |
| | Bajka<br>Kraj | | | | | | | | |
| | | | | Akord | | | | | |


■ Міхал Кулік з жонкай Галінай

Сваё жыццё ўспамінае **Міхал КУЛІК**, пенсіянер з Орлі, народжаны ў 1938 годзе.

# Працаваў вадзіцелем і гаспадаром

## ДЗЯЦІНСТВА

Нарадзіўся я ў Малінніках — так запісалі кумы, бо ў сапраўднасці то паміж Пашкоўшчынай і Шарнямі. Бацька Ізідар меў там дзевяць гектараў зямлі, пашы. Пасля ўсё спалілі немцы. На калёнію прыходзілі з лесу партызаны і бесперапынна патрабавалі хлеба, малака. Немец выгнаў усіх з калёніі ў Пашкоўшчыну. Памятаю як вывозілі. Будынкі перанеслі і пабудавалі нанава, далі новы пляц. Але ў Пашкоўшчыне мы доўга не пажылі, бо як немцы адступалі, то падпалілі мясцовасць.

## У ОРЛІ

Пасля пажару пераехалі ў Орлю; савецкія салдаты перавезлі самаходам. Нашу сям'ю пасялілі па вуліцы Нарваўскай (цяпер Міцкевіча), дзе зараз пляц Раманюкоў. Там стаяў падвойны дом. Пасля вайны той дом знеслі і прызначылі на святліцу ў Малінніках — так войты „нішчылі" Орлю. А нас перасялілі ў іншы дом, па вуліцы Крывятыцкай.

У нашай сям'і было шасцёра дзяцей; наша мама была другой жонкай бацькі. Першая памерла, пакідаючы двое дзяцей — Яна і Надзю; яны былі старэйшыя за нас і намі апекаваліся: Пятром, мною, Валяй і Зінай, якая нарадзілася ў 1946 годзе ўжо ў Орлі.

Сваіх дзядоў не памятаю. Былі ў бежанстве і не вярнуліся. Вярнулася толькі мама Вольга з сястрою, апошнія паўміралі. Былі ў Адэсе і вяртаючыся на радзіму памiралі.

## ШКОЛА

У 1944 годзе пайшоў у першы клас. Школа была ў тым будынку, дзе пасля быў асяродак здароўя. Выхавацелькай была Барбара Лашкевіч. Дзеці былі рознага ўзросту, як мой брат Пётр, народжаны ў 1934 годзе — ліквідавалі непісьменнасць. Тут скончыў я сем класаў, яшчэ год вучыўся ў „завадоўцы" ў Гайнаўцы. Пасля ў Орлі зладзілі для старэйшых вечаровае давучанне.

У школе ўсім давалі рыбін тлушч, абавязкова ў час перапынку. Давалі, бо хварэлі цынгой, недаядалі. Дадаткова кармілі малаком з Унры (UNRRA — міжнародная арганізацыя, якая аказвала дапамогу вызваленым краінам пасля Другой сусветнай вайны — рэд.). І калісь у школах было многа дзяцей, сем'і былі мнагадзетныя, дзеці даходзілі з вёсак.

Дзіцячыя гульні? Мяча не было, гулялі нейкімі шнуркамі. Рабілі вазкі са скрынак. Пасля вайны не было ніякіх цацак. Скрынкі, што асталіся ад радыёстанцый, перараблялі на заплечнікі ў школу. Было таксама шмат выпадкаў ад нявыбухаў, калецтваў. У Кашалях адзін знайшоў снарад і хацеў луг падзяліць — убіваў той снарад, мяркуючы, што гэтакая будзе „вечная паля"; пачаў валіць молатам і разарвала на месцы.

Абутку не было. На зіму бацька рабіў з драўніны хадакі. Зімы былі ў той час больш лютыя чым цяпер, было шмат снегу, а да зімы многія хадзілі басанож. Шылі валёнкі. У Шарнях галёшы склейваў Васька Сасна, які пасля войтам быў. У такіх клееных галёшах людзі хадзілі яшчэ ў 1980-х гадах; яны выгадныя былі і добра прыставалі да валёнак, былі вышэйшыя за купныя, практычныя былі. І ніхто не саромеўся, усе апраналіся на адзін капыл. За хлебам трэба было ў дзве гадзіны ночы ўставаць — у чаргу да пякарні; прадавалі па паўбуханкі.

Бацькі гаварылі, што ў Орлі, дзе цяпер парк, быў раней рынак. Жыды прыязджалі вазамі і расстаўлялі навокал ларкі. Жыды былі рамеснікамі і жылі з праваслаўных; гаварылі што гэта гоі.

## ПРАЦА

На першую працу стаў у 1951 годзе ў Гмінным машынным асяродку; працаваў там каля двух з паловай гадоў, да войска. У 1957 годзе працаваў у цагельні Антанова, якая падлягала кафлярні. У той час былі гэта палявыя цагельні, бо не хапала матэрыялаў у знішчанай вайной краіне; цэглы ішлі на адбудову Варшавы, будаваліся таксама вёскі.

Цэглу выпальвалі драўнінай, а на канец абкладвалі друзам, засыпалі вугальнай крышанкай, ход замуроўвалі і яшчэ некалькі дзён гэта ўсё тлела, каб цэгла добра выпалілася. Выпальвалі Віктар Назарэвіч з Орлі і Шэранос з Міклашоў. Я працаваў на экскаватары на рэйках, капаў гліну.

## КАЛЕКТЫЎ МАНДАЛІНІСТАЎ-СПЕВАКОЎ

У калектыве выступаў я з самага пачатку. Загадчыкам і дырыжорам быў Радыён Агіевіч, музычным інструктарам быў Санеўскі. Арганізавалі культуру, каб моладзь не бадзялася. У тадышнім будынку культуры было таксама кіно, паказвалі фільмы, а значна пазней пад кіно прызначаны быў будынак каля парку.

У калектыве іграла шмат асоб. Выступалі ў Варшаве ў ліпені 1955 года, калі адбываўся Сусветны злёт моладзі і студэнтаў. Быў на адкрыцці Стадыёна дзесяцігоддзя; да сёння перахоўваю Карту ўдзельніка. Былі там некалькі дзён, у працы давалі водпуск. З Бельска ехалі поездам. Жылі ў палатках на Грохаве, там харчаваліся. Былі артысты з усяго свету. А пасля выступалі па цэлай Варшаве, на Марыенштаце пад адкрытым небам — помню як сёння. Варта было там быць.

## ВОЙСКА

Служыць пайшоў у 1959 годзе на два гады. Быў у Элку, пасля тры месяцы ва Вроцлаве, у Астрове-Велькапольскім атрымаў вадзіцельскае права. Увесь час быў радавым шафёрам, ездзіў на розных машынах. Працаваў на самаходным кране АЗ. Выконвалі фартыфікацыі, бункеры.

Ці ў войску добра было быць шафёрам? Трэба было выконваць усялякія даручэнні, напрыклад „Жукам" вазілі харчаванне, „Старам" людзей. Наша часць была будаўнічай, прадукавалі на вайсковыя патрэбы. Рэлігійныя абрады не практыкаваліся. Былі землякі; з бельскага вукаэру было нас бадай больш за дзесяць, і то ўсе спецыялісты — слесары, токары, шафёры. Размаўлялі па-польску.

Прызывалі некалькі разоў у запас: у Голдап, Беласток. А ў лістападзе 1970 года на вучэннях „Тарча-70" вазіў „Старам" ваду на кухню. Спалі ў палатках, матрацы клалі на голлі.

## ПАСЛЯ ВОЙСКА

Вярнуўся на працу ў кафлярню, дзе стаў шафёрам — было ўжо некалькі самаходаў. Перапрацаваў дваццаць гадоў і кафлярню закрылі. Вазіў кафлю ў Варшаву, вазіў у вагоны, якія некуды адпраўлялі. Было складана купіць кафлю.

Пры кафлярні над Арлянкай была лазня, якую закрылі, бо не задавальняла санітарных патрабаванняў. Мыліся ў ваненках, была саўна (пабудаваная пры саветах, пасля разбудаваная — М.М.), абслугоўваў Ян Кавалеўскі. Калі паявіўся электраток, ваду пампавалі маторчыкам.

Купаліся найчасцей па суботах, пасля працы. Спярша мыліся жанчыны. Я хадзіў таксама. Бралі ў саўну бярозавыя венікі, бралі чвэртачку разагрэцца ўжо пасля лазні. Лазня служыла ўсім да 1970-х гадоў.

## СУЖОНСТВА

Ажаніўся я ў красавіку 1965 года. Жонка Галіна была з Сухініч, што ў Сакольскім павеце. Як мы пазнаёміліся? Яна прыехала ў Орлю пасля школы па працаўладкаванні. Хадзілі на забавы і так пажаніліся.

Жонка, цяпер на пенсіі, была цырульніцай, а пасля працавала загадчыцай Асяродка мадэрнай гаспадыні „Практычная пані". У той час па вёсках сталі ладзіць колы вясковых гаспадынь. Вучылі вясковых гаспадынь абыходзіцца з новымі прыборамі. У Орлі была пазычальня хатніх прыбораў, пасуды, прафесійных кніжак. Гэта мела на мэце прывучыць вяскоўцаў да прагрэсу, прыручыць да культуры. Каб ведалі, як карыстацца відэльцамі, бо ж да таго часу была „адна лыжка і адна міска". Ставілі на стол адну міску, пераважна металёвую, каб не пабіць. І бульбу са скваркамі ў адну міску, а халадок з агурцоў у другую; што бабуля зварыць, тое ўсе ядуць.

## СТАРАЯ ОРЛЯ

Млын першапачаткова прыводзіла ў рух водная турбіна, а перад драўляным мостам былі засаўкі. А яшчэ даўней рака Арлянка плыла пад „ялавы мост", у садзе рабілі сажалкі і вада ішла тымі каналамі. Калі пабудавалі млын, то ваду пусцілі паўколам. Пасля ў млын паставілі дызельны рухавік.

Зімою ў 1960-х гадах было такое разводдзе, калі крыгі мелі каля сарака сантыметраў таўшчыні. Людзі секлі піламі той лёд, выцягалі бусакамі і фурманкамі або санямі вазілі ў мясарню, абкладвалі пілавіннем каб захаваць нізкую тэмпературу. Перад мостам людзі расцягвалі крыгі, каб не знеслі моста.

## ПРЫ КАМУНЕ

На Івана каля царквы стаялі такія людзі і прасілі, каб ім даць, то людзі давалі хлеб і булкі. Калісь тавару ў крамах было мала, цяжка было нешта купіць. У Орлі доўгія гады нейкі Чабан *пабіраўся*, жонка вадзіла яго пад царкву, бо ён быў невідучы.

Камуна вывучыла ўсіх людзей, зліквідавала непісьменнасць, быў абавязак вучыцца ў школе. Камуна дала ўсім крыху роўнасці. Ну, але на багатых не было калісь біча і цяпер няма; бо маюць грошы. А хто калісь пакутаваў ад бяды, той і зараз пакутуе. Пры камуне не выганялі з кватэр, як цяпер — цэлы блок, і то людзей, якія змагаліся за краіну.

— Ці Вы былі ў партыі?

— Запісалі, дзеля статыстыкі, бо інакш не атрымаў бы працы. Усюды выкідалі.

— У армо таксама запісвалі?

— Міліцыя шафёраў затрымлівала так як і цяпер. Хацелі і мяне запісаць. Намаўлялі людзей і людзі ішлі.

## ВАЗІЎ ЛЮДЗЕЙ

Калі ўпаў попыт на кафлю, тады чатыры гады працаваў у санітарцы, машына была ў Орлі пры асяродку здароўя. Ездзіў на дамашнія візіты, да выпадкаў, у Бельск бралі; у Орлі лекарам быў тады Рышард Пацоха. Пасля сталі ліквідаваць санітаркі пры асяродках здароўя. Тады пайшоў на працу ў ГС, таксама шафёрам. Калі арлянскай школе далі другі самаход і не хапала вадзіцеляў, то ездзіў аўтобусам і давозіў вучняў у школу і адвозіў дадому; самаход падлягаў Гміннай управе. Працаваў там аж да выхаду на пенсію ў 1985 годзе.

## ПРАЦАВАЎ НА ДВА ШТАТЫ

Працаваў на дзяржаўнай рабоце, але і на сваёй гаспадарцы. Бо інакш не даў бы рады. Мусіў вывучыць чацвёрку сваіх дзяцей, каб не былі горшымі за іншых. Купіў трактар, і зямлю дакупіў, і стаў гаспадарыць, каб нешта было. Не было іншага выхаду.

## НА ПЕНСІІ

На дзяржаўнай рабоце перапрацаваў 44 гады. І што атрымаў? Паўтары тысячы злотаў. У турме не сядзеў, інтэрнаваны не быў, у курортах ніколі не быў, ні ў санаторыях, нічым не карыстаўся, а цяжка працаваў да канца.

— Але ёсць дармовае тэлебачанне...

— Ды нечага там аглядаць, толькі рэкламы. Многа ідзе на лякарствы. І ўсё трэба аплаціць: падаткі, электрычнасць, ваду, каналізацыю, смецце...

Апытаў і сфатаграфаваў **Міхал МІНЦЭВІЧ**

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Колькі ў небе зор

Дагэтуль уяўлялася, што цяжка іх палічыць, але можа ў недалеглай будучыні іх мірыяды стануць толькі песенным успамінам. Недзе ў палове снежня мелі паказацца на небе падаючыя зоркі ды нейкая камета. На вялікі жаль, у цяперашні час амаль немагчыма іх пабачыць, асабліва з гарадоў, з прычыны забруджання прасторы святлом, якое не дазваляе зазірнуць у далёкі космас так, як гэта было яшчэ магчыма ў прэіндустрыяльную эпоху. Прастора ў наш час забруджваецца не толькі матэрыяльнай індустрыяльнай вытворчасцю, але і іншымі прадуктамі сучаснай цывілізацыі, у тым ліку і згаданым святлом.

Асвятленне зараз трэба асацыяваць галоўным чынам з гарадамі. Яшчэ шэсцьдзясят гадоў таму з майго Ляўкова відаць было ў начны час святлісты арэол над гарызонтам з напрамку Гайнаўкі, крыху слабейшы з напрамку адлеглага Беластока і ледзь заўважны арэол з напрамку Бельска. І мірыяды зорак з адлеглага космасу. Сёння ўжо амаль кожная вёска мае свой уласны арэол, сваё ўласнае прадстаўніцтва ў светлавым космасе. А ў нашых гарадах адбываецца нешта накшталт светлавога спаборніцтва — хто ярчэй. І ў гэтай беспамяркоўнай святлавой мітусні губіцца ўся прыгажосць традыцыйнага начнога неба...

Гэта ў нас. А як у шырокім свеце? Удалося мне нядаўна зноў наведацца ў Цюрых, гаспадарчы рухавік Швейцарыі. І там ступіць на Вакзальную вуліцу (Bahnhofstrasse). Гэтая вуліца лічыцца адной з найдаражэйшых у свеце. Кошт гадавога наёму квадратнага метра гандлёвай плошчы дасягае там 15 тысяч франкаў — парытэтна Нью-Йорку ці Ганконгу. Здавалася мне, зыходзячы з нашага тутэйшага рэкламнага багацця, што там, на той цюрыхскай Вакзальнай вуліцы, святла будзе асляпляльна многа, што тая амаль паўтаракіламетровая вуліца з'яўляецца нейкім „Святлістым шляхам" у цывілізацыйную будучыню...



Ёлка ў цюрыхскім вакзале



Цюрыхскі вакзал



Ёлка ў цюрыхскім Сіці

По Вакзальнай вуліцы Цюрыха знаходзяцца магазіны самых дарагіх сусветных брэндаў — вопраткі, абутку, касметыкі, біжутэрыі, гадзіннікаў... Думаў я, што кожны такі магазін засвечаны асляпляльнымі шыльдамі-рэкламамі. Але ж не — шыльды невялічкія, падсветленыя далікатна, гэтак жа сама як і іх інтэр'еры — памяркоўным, ненавязлівым асвятленнем. Каму туды трэба, па капрызе і па кішэні, — той знойдзе патрэбны яму магазін, даспадобны яму тавар. А каму той модны тавар нецікавы, таму вуліца тая можа паказацца так жа звычайнай як Беластоцкая вуліца ў Саколцы ці Варшаўская ў Беластоку.

Вакзальная вуліца працягваецца ад — як сама назва падказвае — ад чыгуначнага вакзала да Цюрыхскага возера. Пракладзеная яна была ў другой палове XIX стагоддзя. Недзе пасярэдзіне гэтай вуліцы знаходзіцца Парадная плошча — Paradeplatz. У першай палове таго ж XIX стагоддзя быў там вонкавы прыгарадны гандлёвы рынак, дзе прадавалася жывёла, у тым ліку свінні; і тады ён называўся Свіным рынкам. Пазней, калі горад пачаў пашыраць свае межы, пляц быў далучаны да гарадской тэрыторыі і названы Новым рынкам, а пазней перанайменаваны на цяперашнюю назву. Не таму, што там адбываліся нейкія ваенныя парады, як стагоддзем пазней на Чырвонай плошчы ў Маскве, а таму, што там сталі ўзводзіць парадныя пабудовы. Зараз пры Парадным пляцы Цюрыха стаяць адміністрацыйныя будынкі двух найбольшых швейцарскіх банкаў UBS і Credit Suisse. Банкі адыгрываюць вядучую ролю ў сучасным прагрэсе, таму і пра іх варта ўзгадаць. Швейцарскія банкі буйнелі дзякуючы засакрэчанасці іхніх збераженняў, так „правых", як і „левых". М.інш. туды ў недалёкім мінулым адпраўлялі свае грашовыя калекцыі па некалькі мільярдаў амерыканскіх долараў заірскі прэзідэнт Мабуту ці філіпінскі Маркас, пра меншых тузоў не згадваючы. Зараз тая засакрэчанасць крыху абмежаваная, крыху адкрытая «гласности», дзеля прадухілення адмыванню „брудных" грошай ды падазрэнням, што туды адпраўляліся зрабаваныя гітлераўцамі ў час Другой сусветнай вайны каштоўнасці.

А цяпер слоў пару пра вакзал, ад якога вуліца ўзяла так свой пачатак, як і назву. У час майго кароткага наведвання таго будынка не ўдалося мне пабываць на перонах і пабачыць тамашні чыгуначны транспарт. Затое сам вакзальны будынак вельмі напамінаў мне нядаўна знесены будынак беластоцкага аўтобуснага вакзала. Менавіта запоўнены ён шматлікімі ларкамі, прапануючымі ўсялякую драбязу; ёсць там і абсыпаная снегападобнымі аздобамі аўстрыйскай фірмы «Свароўскі» навагодняя ёлка. Як ні дзіўна, швейцарцы не прыдумалі знесці тае пабудовы, як гэта зараз дзееецца ў нас: пасля трыццаці гадоў службы адпраўлены ў рэінкарнацыю беластоцкі аўтобусны вакзал, неўзабаве яго лёс падзеляць бельскі і чаромхаўскі такія ж чыгуначныя будынкі.

На прывакзальнай плошчы Цюрыха стаіць помнік Альфрэду Эшэру, тамашняму грамадскаму лідару з XIX стагоддзя. Яго дальнабачнасць стала зачынам тадышняга буйнага развіцця горада. Гэта па яго і ягоных аднадумнікаў праектах быў пабудаваны той вакзал, які непарушна вытрымлівае выпрабаванні розных эпох. І гэта ягоная смелая візія прабою тунэля пад Сен-Гатардскім перавалам і пракладкі тудою чыгункі зматэрыялізавалася камунікацыйным спалучэннем поўначы і поўдня Альп, Германіі, Швейцарыі і Італіі. Дзякуючы яму Цюрых стаў адным з галоўных звенняў таго спалучэння. Ён быў у ліку заснавальнікаў банка Credit Suisse ды тамашняй шырока вядомай політэхнічнай вышэйшай школы, якой студэнтам і выкладчыкам быў у свой час першы польскі прэзідэнт Габрыель Нарутовіч. З помніка Альфрэд Эшэр глядзіць на Вакзальную вуліцу, як на сваё дзецішча, якое вырасла ў магутны эканамічны суб'ект.

Дарэчы, Швейцарыя была ў ліку піянераў электрыфікацыі, таго вынаходства, якое з ходам часу стала рассвятляць гарызонт, выробленае чалавекам святло стала рассейваць у атмасферы, перакрываючы прыроднае святло ад нябесных свяцілаў. І цяпер сучасны чалавек быццам закрыты ў святлавой клетцы, абмежаванай толькі да выробленага ім святла. Ну, помнікі стаўляюць не толькі піянерам тэхнічнага прагрэсу, які забруджвае і абмяжоўвае прыродную прастору. У нашай частцы свету помнікі стаўляюць, як мне здаецца, галоўным чынам тым летуценнікам грамадскіх перамен, якія перш за ўсё абмяжоўваюць грамадскую прастору, таксама да рознай велічыні клетак. Каб чалавек менш бачыў, не толькі ў небе зор...

А зараз час выглядаць калядную зорку. Пажывём, пабачым. Можа яшчэ з космасу. А з часам, з ходам прагрэсу, можа толькі рукатворную...



Лёс беларусаў Беласточчыны

# Шукалі Млынаша, схапілі Грынаша…

■ Уладзімір Грынаш у сваёй дзятлаўскай кватэры

У родных Зачарлянах Уладзімір Грынаш нарадзіўся ў 1941 годзе перад самай вайной. А ў 1930-х гадах у сям'і Грынашаў з'явіліся яшчэ сястра — Марыя і брат Анатоль. Анатоль цяпер жыве ў Кіеве.

Бацькамі Уладзіміра, Марыі і Анатоля Грынашаў былі Іван і Надзея Грынашы. Усе родам з Зачарлянаў. Іван Грынаш, 1902 года нараджэння, меў толькі два гектары прыватнай зямлі, але гэтага хапала, каб пракарміць сям'ю. Жонка Івана Надзея была хатняй гаспадыняй, даглядала дзяцей. Усе яны прыехалі з Зачарлянаў на Дзятлаўшчыну ў 1946 годзе.

Сёння Уладзімір Грынаш — сын Івана і Надзеі жыве ў добрай кватэры з жонкай у Дзятлаве. Ён мала што памятае, але сёе-тое распавёў пра свайго бацьку. На пытанне, чаму яны пакінулі родныя Зачарляны, Уладзімір Іванавіч сказаў, што іх сям'я не хацела пакідаць бацькоўскі кут, але іх маглі застрэліць невядомыя бандыты, якія пасля вайны не давалі спакою беларусам у Зачарлянах.

Неяк бандыты прыйшлі ў іх вёску і пачалі рабаваць і палохаць беларусаў. Яны застрэлілі суседку Грынашаў, а потым узялі з сабой і Івана Грынаша. Праўда, шукалі нейкага Млынаша, каб расстраляць, а ўзялі памылкова Грынаша. Потым Івана адпусцілі, бо, аказалася, пераблыталі прозвішчы.

Пасля гэтых выпадкаў сям'я з Зачарлянаў хутка развіталася з роднай вёскай. Усё дабро пагрузілі ў вагон і паехалі на Дзятлаўшчыну на станцыю Наваельня. З Наваельні на падводах даехалі ў Дзятлава, дзе ім далі дом на Камсамольскай вуліцы. Пачалі абжывацца на новым месцы. Ці хацелі бацькі вярнуцца ў Зачарляны? Такое пытанне я задаў Уладзіміру Грынашу. „Спачатку вельмі хацелі вярнуцца дамоў, а потым ужо не, пачалі паціху прывыкаць да новага месца, уладкоўвацца на працу, знаходзіць сяброў і знаёмых, тым больш, што на Дзятлаўшчыне было шмат перасяленцаў з Беласточчыны, — адказаў Уладзімір — сын Івана Грынаша.

■ Сям'я Івана Грынаша ў родных Зачарлянах. Фотаздымак зроблены напачатку 1940-х гадоў

Сяргей ЧЫГРЫН

## http://ragna.by

Інтэрнэт-крама

Гандаль таварамі, якія тым ці іншым чынам адносяцца да гісторыі і культуры мясцовага насельніцтва, справа даволі цікавая. Наўрад ці гандляры атрымліваюць шмат грошай ад пакупнікоў, але ім дастаюцца добрыя ўсмешкі людзей, якія прыдбалі нешта аўтэнтычнае і адметнае. Такія тавары звычайна прадаюцца ў магазінах, якія апошнім часам займелі назву „этнакрама".

Этнакрамы ў Беларусі — з'ява апошніх дзесяці-пятнаццаці гадоў. Прычым узніклі яны выключна з ініцыятывы мясцовых камерсантаў, апантаных беларушчынай. У звычайных сувенірных крамах яшчэ з часоў савецкай улады ў Беларусі часцяком прадавалі збольшага саламяныя вырабы, якія насамрэч не з'яўляюцца адметным беларускім сувенірам.

Адной з такіх этнакрам, якія маюць добры сайт, ёсць этнакрама „Рагна". Яе інтэрнэт-прадстаўніцтва месціцца па адрасе **https://ragna.by**. „Асартымент нашай крамы — гэта простыя спажывецкія рэчы, арыгінальныя сувеніры і падарункі ў беларускім этнастылі. Адбор тавару для гандлю адбываецца на падставе традыцыйнасці, натуральнасці, эстэтыкі і функцыянальнасці", — распавядаюць уладальнікі этнакрамы на старонцы „Інфармацыя і кантакты".

На галоўнай старонцы сайта патэнцыйны пакупнік можа ўбачыць фотаздымкі тавараў, якія гандляры называюць навінкамі. Праўда, калі меркаваць па даце размешчанай інфармацыі, гэтым навінкам ужо амаль паўгода. Але, магчыма, дадзеныя звесткі абнаўляюцца без змянення даты, бо наўрад ці ў жніўні ўладальнікі крамы прапанавалі бы ёлачныя цацкі. Пра тое, што паведамленні аб таварах абнаўляюцца досыць рэгулярна, сведчыць і наступная інфармацыя — пра сняжынкі-выцінанкі. „Памятаеце перадкаляндную мітусню з упрыгожваннем хаты, выразаныя сняжынкі з паперы на вокнах? А вы ведаеце, што гэтыя сняжынкі нішто іншае як стары від прыкладнога мастацтва, якое называецца выцінанка? Першапачаткова выцінанкі (выразанкі) і выкарыстоўваліся для ўпрыгожвання жытла пад час святаў. А ўжо пасля людзі сталі выразаць цэлыя кампазіцыі з расліннымі, жывёльнымі ці бытавымі сюжэтамі. Выкарыстоўваючы толькі паперу і нажніцы ўмельцы стваралі неверагодныя ў сваёй дэкаратыўнасці ажурныя карціны. Радасць у тым, што традыцыя не памерла, а хутчэй трансфармавалася, як і павінна адбывацца з сапраўдным мастацтвам", — распавядаюць пра адзін з калядных атрыбутаў уладальнікі этнакрамы. Для таго, каб выбраць сабе ўпадабаную выцінанку, трэба зайсці на адпаведную старонку сайта з назвай „Выцінанкі".

Папярэдняе свята беларусаў — Восеньскія Дзяды, можна лічыць своеасаблівым маркетынгавым шанцам для распродажу тавараў „Рагны". Заклікаючы шанаваць сваіх продкаў, можна і нагадаць аб тым, чым яны карысталіся. „Дзяды. Колькі ў гэтым слове... Гэта бабуля з вядром малака, якая выходзіць з хлява і ідзе па пратаптанай да акамянеласці зямлі двара. Гэта род, які зараз рэдка хто ведае далей трэцяга пакалення, але адчувае недзе глыбока пад рэбрамі. Гэта той досвед, які не перастае быць актуальным і праз 200-300 год, хоць наша жыццё зусім не падобнае да іх жыцця, дзядоў. Мы мусім памятаць і шанаваць сваіх продкаў, а інакш хто мы, хіба сіроткі?.. Этнакрама РАГНА памятае і прапануе рэчы, якія не дадуць забыцца і вам", — упэўнена сцвярджаюць камерсанты.

Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з Календара

Падзеі і асобы БНР

## Сто гадоў з часу пераезду Рады БНР у Гродна

Апошняе пасяджэнне Рады БНР у 1918 годзе ў Мінску адбылося 28 лістапада. Ужо 3 снежня сябры Рады і ўрада БНР з'ехалі ў Вільню. Аднак у сувязі з набліжэннем Чырвонай Арміі 27 снежня кіраўніцтва БНР пераехала з Вільні ў Гродна і знаходзілася там да верасня 1919 года, калі Рада БНР вярнулася ў Мінск.

Так Гродна часова стала рэзідэнцыяй улад БНР (нямецкія войскі пакінулі горад у канцы красавіка 1919 года). Тут працавалі беларускія культурныя арганізацыі („Бацькаўшчына", „Лучына", „Беларуская хатка") і беларускія школы, выдаваліся беларускія газеты, ставіў спектаклі нацыянальны тэатр. На будынках адміністрацыйных установаў віселі дзяржаўныя бел-чырвона-белыя сцягі.

У Гродне тады адначасна дзеілі дзве палітычныя структуры: урад БНР і міністэрства беларускіх спраў Літвы (апошняе — з 19 снежня 2018 года). Палітычныя дзеячы арыентаваліся часткова на Літву, часткова на Польшчу. Міністру беларускіх спраў падпарадкоўваліся павятовыя камісары, ураду БНР — беларускія сялянскія рады ў Ваўкавыску і Гродне. Урад падтрымлівала і Віленская Беларуская рада.

Пасля публікацыі граматы Рады БНР ад 28 лістапада 1918 года аб стварэнні тэрытарыяльных органаў улады, абіраных насельніцтвам, мясцовыя беларускія нацыянальныя дзеячы правялі ў Гродне сялянскі з'езд. Яго працай кіраваў намеснік старшыні Рады БНР Аркадзь Смоліч, яго намеснікам быў Андрэй Якубецкі.

Як вядома, кіраўнікі адноўленай польскай дзяржавы намерваліся пашырыць яе тэрыторыю на ўсход за кошт украінскіх, беларускіх і літоўскіх зямель. Таму на гарадзенскім з'ездзе былі разгледжаны пытанні ўмацавання беларускай дзяржаўнасці да прыходу сюды польскіх войскаў. З'езд пастанавіў стварыць выбарным шляхам валасныя і сельскія камітэты, а таксама падрыхтаваць губернскі з'езд. Была абрана Гарадзенская павятовая рада на чале з Андрэем Якубецкім. Заснаваная рада дзеіла ў цесным кантакце з Радай народных міністраў БНР і з Пётрам Крачэўскім, камісарам Гарадзенскага павета ад Міністэрства беларускіх спраў Літоўскай Рэспублікі.

У снежні 1918 года ў Гродне на пасяджэнні Рада БНР стварае Раду Дзяржаўнай абароны на чале з Вацлавам Ластоўскім і Кіпрыянам Кандратовічам. У канцы 1918 года ў горадзе над Нёманам, у зале афіцэрскага казіно ў так званым доме Мураўёвых (сёння гэта Савецкая плошча-2), зладзілі першы ў горадзе беларускі мітынг. Аркадзь Смоліч праз гады ўзгадваў, што „лозунгі БНР карысталіся тады ў Гародні поспехам".

Варта прыгадаць тут яшчэ адзін адрас. Па іроніі лёсу ў гатэлі пад шматзначнай назвай „Расія" (сёння гэта вуліца Савецкая, дом № 23), у сакавіку 1919 года праходзілі чарговыя пасяджэнні ўрада БНР. Тут працавалі Беларускі нацыянальны камітэт, Грамада беларускай моладзі, курсы беларускай мовы, адбываліся беларускія вечарыны, працавала рэдакцыя газеты „Беларусь" і Цэнтральная беларуская рада Гарадзеншчыны, беларускі клуб „Наша хатка".

Акрамя галоўных знешнепалітычных праблем выяўляліся і іншыя значныя супярэчнасці. Так, паміж урадам БНР і Міністэрствам беларускіх спраў Літвы заканамерна паўстала саперніцтва. Міністр Язэп Варонка супрацьстаяў прэм'еру ўрада БНР Антону Луцкевічу. Супраць групоўкі Варонкі выступаў Беларускі нацыянальны камітэт на чале з Паўлам Алексюком і Андрэем Якубецкім. Памірыць гэтыя групоўкі імкнуўся Вацлаў Ластоўскі, старшыня Беларускага сакратарыята (беларуская фракцыя дэпутатаў Тарыбы). Сітуацыя была складанай.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Што паабяцаў выбаршчыкам новы войт

Жыхары Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета на пасаду войта выбралі **Ярослава Галубоўскага**. Новы гаспадар гміны мае намер дапамагчы, між іншым, самотным пажылым жыхарам Нараўчанскай гміны ды нараўчанскім вучням і дашкольнікам. Для састарэлых людзей трэба стварыць умовы для таго, каб яны маглі штодзень есці цёплы суп і іншыя стравы.

Зараз школьнікам даводзіцца не найлепш даязджаць на заняткі ў школу і пасля поўдня дадому. Тым самым аўтобусам дарослыя вяртаюцца з Гайнаўкі. Сядзяць і чакаюць ля школы з паўгадзіны, калі канец урокаў і тады разам з вучнямі едуць далей і крыху наўкруг цераз вёскі, у якіх жывуць вучні.

Варта вярнуцца да „белых нядзель”, каб хаця ў нядзелі ў нашы вёскі ад часу да часу прыязджалі лекары-спецыялісты (маем у гміне шмат прыгожых святліц). Зараз да лекараў трэба чакаць у чарзе і некаторым не дачакацца. Хуткая дапамога гэта ўжо запозна. Гэта не тое.

Новы войт намераны добраўпарадкаваць камунальную гаспадарку ў гміне, каб яна была больш аператыўнай. У гэтай галіне павінны быць заказы на шматлікія паслугі, якіх патрабуюць вясковыя жыхары.

У Нараўчанскай гміне не ўсе святліцы бурляць жыццём. Іх пабудавалі не з той мэтай, каб стаялі і ў іх нічога не дзеялася. Час і пара вярнуць да дзейнасці гурткі вясковых гаспадынь (КГВ), а зараз вечарыны, падчас якіх старэйшыя і дзеці спяваюць калядкі. Мясцовыя паэты хочуць больш сустрэч з чытачамі ў святліцах. У вясковых дамах культуры можна было б дэманстраваць кінафільмы, напрыклад, Тамары Саланевіч. Маюць іх культурныя ўстановы ў Нараўцы.

Войт бачыць патрэбу змяніць дасюлешнюю формулу вясновых і летніх беларускіх народных фэстаў. І над гэтым трэба добра падумаць. Як узбагаціць іх змест. Трэба дацаніць працу ды дапамагаць песенным калектывам „Цаглінкам” са Старога Ляўкова і „Нараўчанкам” з Нараўкі. Яны ўжо сталі шырокавядомымі.



У рэшце рэшт добра было б праклaсці асфальт на пясчанай, часамі балоцістай дарозе ад ваяводскай шашы (Навасады — Бандары — Юшкаў Груд — Беласток) да могілак у Новым Ляўкове. Дарогай карыстаюцца жыхары сямі сялэцтваў ды яшчэ часткова двух, якія належаць да Стараляўкоўскай парафіі. А калі далей то і да агракватэры „Баразруй” Барыса і Людмілы Казлоўскіх, і да сядзіб сем'яў Скепкаў і Несцерукоў.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Прыйдзеш, а крама закрыта

Жыхары Плянты і Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета не задаволены з працы прадуктовай крамы ГС у Плянце. Тут не вінавата прадаўшчыца, а праўленне ГС.

У краме працуе адна прадаўшчыца і калі яна ідзе ў водпуск або захварэе, прыйдзеш, а крама закрыта. Гэта крама з прадуктамі першай патрэбы, а не з цвікамі, бляхай або драцяной сеткай. Харчовыя прадукты нетрывалыя, яны хутка псуюцца, а хлеб і хлебабулачныя вырабы чарсцвеюць. Калі крама бывае закрыта, прадукты вязуць у краму ў Старым Ляўкове, там яны чакаюць ажно іх забяруць у Плянту.

Зараз крама ў Плянце (вёска налічвае 154 жыхары) бывае закрыта або працуе кожны другі дзень. Чаму? Прадаўшчыца мае да выкарыстання 20 дзён водпуску. А тут і год канчаецца. ГС не хоча заплаціць за адпускныя дні. І крама часта закрыта. А што ж там такога, якая там бяда, што там пакупнікі. Едзьце сабе ў Нараўку, там больш прадуктовых магазінаў.

Выйсце ў такім выпадку можа быць і такое. Ёсць маладая дзяўчына ў Новым Ляўкове, якая працавала ў крамах і мае вопыт, але няма для яе штату. Чаму б не ўзяць яе на працу? Хаця б на адзін месяц. Яна ахвотная. Нараўчанская ГС камбінуе, як стары і слабы конь пад горку. А можа яна намерана абанкруціцца? Пяць крамаў ліквідавала.

**(яц)**

*Яўгенія МАРТЫНЮК*

## Бельскія вечары царкоўнай музыкі

Пад купаламі Успенскай царквы
ў гасцях я, таксама вы,
мінуў год, мы сустрэліся ізноў,
бо нас яднае чароўнасць вечароў.
Айцец Пятро ўсё ж рук не склаў,
з дапамогай тут айцец Яраслаў,
спонсарам расчыніліся партфелі
і мы душэўна павесялелі.
Нам сягоння няшмат трэба,
над сабою бачым неба.
О, Найсвяцейшая, Тваё Успенне
вернікам як прабуджэнне,
хто з песняй, хто з адкрытаю душой
прагне прысутнасці Тваёй.
Вечар упрыгожаць зоры,
заспяваюць Богу хоры,
у цёплай малітоўнай плыні
адчуваецца подых святыні.
З высі Ангел абвяшчае:
Віфлеем усіх нас чакае.

*Бельск-Падляшскі, 9.12.2018*

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. хімічны элемент, якога найбольш у паветры = 5 _ 4 _ 3 _ 2 _;
2. украінскі абласны горад у вярхоўях Паўднёвага Буга = 7 _ 17 _ 36 _ 27 _ 28 _ 14 _ 15 _;
3. сумесь памёту і подсцілу для ўгнаення глебы = 20 _ 32 _ 21 _ 13 _;
4. дванаццаць месяцаў = 34 _ 30 _ 31 _;
5. маці Каіна і Авеля = 37 _ 29 _ 26 _;
6. частка каня з хвастом = 11 _ 12 _ 6 _;
7. забор чужой маёмасці = 38 _ 19 _ 1 _ 40 _ 18 _;
8. яўрэйскія велікодныя праснакі з пшанічнай мукі = 16 _ 33 _ 24 _ 35 _;
9. плесневы налёт ад сырасці = 43 _ 41 _ 42 _ 39 _ 44 _;
10. гіганцкія акіянскія хвалі ад падводнага землетрасення = 25 _ 8 _ 22 _ 10 _ 9 _ 23 _.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | 2 | 3 |
| | | 4 | 5 | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |
| 36 | 37 | | 38 | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 |

**Адказ на адгаданку з 47 нумара**

Адэн, волат, глеба, до, жыла, каза, кума, лаза, рай, шах. Рашэнне: **Галоднаму кавалак хлеба даражэйшы за золата**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# 23.12 — 31.12

**(22.03. — 20.04.)** 24-30.12. пераканаешся, што ідзеш па адпаведнай дарозе. Мілая атмасфера ў сям'і можа быць завіраваная 22-24.12. Новы Год можаш правесці ў іншых абдымках. Калі ты вольны, не разлічвай на каханне як гром з яснага неба. Твая шчодрасць можа давесці да таго, што каля 31.12. можаш у кашальку ўбачыць дно. Еж стравы са свежых прадуктаў.

**(21.04. — 21.05.)** 24-26.12. магчымае выпрабаванне тваёй сумленнасці. Удалае закрыццё года і вяртанне раўнавагі. Быкі з другой дэкады маюць шанц знайсці сваю другую палову. Можаш пазнаёміцца з кімсьці, хто пачне новы раздзел твайго жыцця, 27-31 снежня. Толькі не праваронь! 27-31.12. добры час выбрацца ў банк на негацыяцыі ці вядзення рахунку; не будзе чэргаў. Не выпусціш руля з рук!

**(22.05. — 22.06.)** Не замыкайся ў сабе, не ўпусці шанцаў на вялікае каханне. 24-26.12. не страць галавы ад кампліментаў серыйнага падчэпніка; гэта не кандыдат на партнёра. На працы можаш разабрацца ў плётках і выкарыстаць іх. Чакае цябе хутчэй павышэнне, а не звальненне. Блізнюк з другой дэкады: Новы год будзе цудоўны, але не мусіш выдаваць фартуны на нейкую апранашку. І не шыкуйся да «Сільвестра» перад тэлевізарам!

**(23.06. — 23.07.)** У парах свеціць сонца. Шанцы на каханне. Калі будзеш мець кагосьці на воку — ён твой! Але да прызнанняў 24-26.12. падыходзь з рэзервам. Захопіш усіх мілавіднасцю, ветлівасцю і добрымі манерамі. Мноства падарункаў і добрых слоў. Можаш падзарабіць. 27-31.11. цудам і дзякуючы сваёй чароўнасці не нарвешся на праблемы, напрыклад раз'юшанасць шэфа.

**(24.07. — 23.08.)** Сябры ахвотна цябе ўгосцяць, будзеш цудоўным кампаньёнам. 22-23.12. вельмі цікавыя знаёмствы. Не шкадуй сабе прыемнасцей. Старанна будзеш лічыць грошы. На рахунку паявяцца яны таксама. Што застанецца, выкарыстай на падарожжы. Меркурый у Стральцы хацеў бы забраць цябе ў свет! Вернуцца сілы да дзеяння, у галаве народзяцца новыя задумы. Паслядоўнасць у ажыццяўленні здаровага ладу жыцця.

**(24.08. — 23.09.)** Будуць грошы, кампанія, добрыя задумы. Зоркі памогуць у сямейных і прыватных справах. Прачнецца рамантычны бок тваёй натуры. У прафесіі добры крок уперад. Навучышся чагосьці, што ведаў толькі павярхоўна. Веды, якія здабудзеш, памогуць развязаць не адну прафесійную і асабістую праблему. Пасля 26.12. варта выбрацца ў банк, зрабіць капіталаўкладанне, заінвеставаць грошы. Можаш натрапіць на атракцыйную прапанову куплі жылля.

**(24.09. — 23.10.)** Удасца табе папхнуць уперад сваю кар'еру. Знойдзеш дарогу ў кабінет шэфа і захопіш яго незвычайнымі прапановамі. Калі ты з першай дэкады, будзеш мець павышэнне, прэмію, але і большую адказнасць. Але не мяняй працы. Будзь асцярожны і ў фінансавых справах. Не выдавай грошай, якіх яшчэ не зарабіў. Інвестуй у курсы і падарожжы. Не лыгай сам таблетак, толькі ідзі на медабследаванне. 24-26.12. не ляпай языком, не пакрыўдзі кагосьці. 27-30.12. спакоем і апанаваннем палагодзіш канфлікты.

**(24.10. — 22.11.)** Фартуна табе спрыяе. Не адмаўляйся ад сустрэч, асабліва 27-20.12. Хтось здаўна кідае на цябе вока. Святкаванні ў ідыліі і згодзе, хіба што прыхварэе нейкі старэйшы сем'янін. На працы цяжэй 24-26.12., можа будзеш мець дзяжурства. Задумы з таго часу адкладзі на паліцу, пасля іх абдумаеш. Купі САБЕ нейкую прыемную драбязу. Апранайся цёпла, асабліва дбай аб ногі.

**(23.11. — 22.12.)** 23.12. можаш пазбыцца фінансавых і прафесійных праблем. 24-26.12. нікога не асуджай неабдумана. Палагодзь крыўды, папрасі прабачэння. 23.12. прымі ўдзел у мерапрыемстве, абучэннях, гэта неўзабаве прыдасца. Заінвестуй у касцюм, добрыя боты. Купляй у інтэрнэце. Папівай ваду.

**(23.12. — 20.01.)** 23-24.12. выявяцца глыбока скрываныя жалі, канфлікты. Інтуіцыя цябе не падвядзе. Падмацуеш, выслухаеш, суцешыш сяброў. Шмат што не ўдасца з таго, што запланаваў, але не пераймайся, адпачывай. Прагані чорныя думкі. Шпацыруй, нюхай араматы.

**(21.01. — 19.02.)** 22-23.12. паявяцца людзі, якія будуць для цябе важныя ў будучыні. Цікавыя задумы. Расправішся з мінулым. Думай, што наступны год будзе лепшы за гэты. Падтрымай адну арганізацыю. Папрацуй над сабой. Яшчэ маеш час завяршыць свае навагоднія рашэнні. Але не мяняй свайго стылю ці прычоскі.

**(20.02. — 21.03.)** 22-23.12. можа прытрапіцца вельмі рэдкая, прыбытковая халтура. 24-26.12. будзеш упарта шукаць таго, што не існуе. У пары наступяць спакой і гармонія, калі забудзешся пра правіны партнёра. Сярод радні лепш прыкусі свой язык. Рыхтуецца ўзнагарода. На працы рэкордная прэмія ці павышэнне, дык можа гуляй пасля работы. Трэба табе многа энергіі і вітамін. Еж сухафрукты і арэхі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Падляшша і Камянеччына — у пошуках суродзічаў (ч.II)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК



— *Я — полячка,* — прадставілася на ляту бабулька ў святочнай хустцы. Гэтая інфармацыя апярэдзіла ўсё апошняе: імя і прозвішча, сямейную і грамадскую ролю, гады і хваробы. Усё гэта здавалася дзівосным і адначасова знаёмым. Праўда, у сваіх падляшскіх вандроўках я размаўляла некалькі разоў па-свойму з падляшскімі палякамі.

Тут, у адміраючай вёсцы па беларускім баку Белавежскай пушчы, услед за дэкларацыяй нацыянальнасці, веяла яшчэ настальгіяй па Польшчы. Пенсіянерка Стася Ярмаловіч з Чвіркоў выседжвала на лавачцы, грэючыся ў промнях вераснёвага сонца. За яе спінай бушаваў разнаколерны дыван астраў, вяргінь, аксамітак і папараці. Агародчык і сад — яе радасць і безупынны клопат.

— *От, помаленьку доспіваю,* — скажа пра сябе жанчына, — *сама, одынока, як палець...*

Я не мела адвагі спытаць ці ведае яна польскую мову. Народжаная ў 1939 годзе ў прыкардоннай вёсцы, мабыць, не мела магчымасці адукавацца на мове продкаў. Мясцовыя палякі, якія да вайны складалі значную частку насельніцтва Вярховіч, амаль усе з'ехалі ў Польшчу...

— Мой брат жыве ў Чаромсе, — кажа з нейкай радасцю жанчына, — ды ён то праўдзівы паляк... А я такая, як усе.

У апошніх словах таксама луналі ноты настальгіі і страчаныя шансы...

Хоць на першы погляд бабуля цалкам дапасавалася да вонкавага свету. Сёння яна апранулася па-святочнаму і не пайшла прыбіраць яблыкі ў садку. Праваслаўныя суседзі адзначалі *Головэсіка*.

* * *

Бацюшка Ігар Пяркоўскі з Ражкоўкі пакуль не распавёў мне пра гісторыю парафіі, доўга выпытваў пра веравызнанне. Калі я сказала, што не абмінаю сваёй царквы, ён дамагаўся канкрэтаў:

— А ваша царква — яна праваслаўная ці каталіцкая?

У Польшчы, у тым ліку на Падляшшы, ніхто не назаве касцёла царквой, хаця царкву ўсё часцей называюць праваслаўным касцёлам. У Беларусі тое ж — толькі наадварот. Пра касцёл часта кажуць — каталіцкая царква. Але сказаць пра царкву праваслаўны касцёл — гэта ўжо абраза. Таксама вялікай абразай лічаць, калі назавеш бацюшку ксяндзом.

У ходзе знаёмства рашкоўскі святар прызнаўся, што ў яго польскія карані. На жаль, дзед, па якім засталося прозвішча, загінуў у невядомых абставінах на айчыннай вайне. Яго магіла знаходзіцца дзесьці ў Нямечынне. Разам з гібеллю продка парваліся ўсякія сямейныя сувязі з каталіцтвам і Польшчай.

— І калі я прыязджаю да вас, у Польшчу, — заяўляе бацюшка Ігар, — то звычайна спыняюся ў праваслаўным манастыры ў Звярках.

— Perkowski — надта папулярнае прозвішча ў Беластоку, — кажу, — вы не думалі, каб адшукаць сваякоў?

— Не думаў такога, — рэзка заяўляе мой субяседнік, — не, такога, не думаў...

Наша размова ад першага па апошняе слова гучыць па-расейску.

Бацюшка відавочна рады, што я не каталічка!



* * *

Сямейныя сувязі для жыхароў Белавежскай пушчы гэта амаль вызначальнік нацыянальнасці. Калі ў Панасюках, вымерлай ужо пушчанскай вёсцы, мы сустрэлі дачніка з Берасця, ён спачатку спытаў:

— *А вы откуда?*

— З пушчы, ад Гайнаўкі.

Ад гэтага прызнання лопнулі ўсе межы і кардоны.

— У мяне дваюрадны брат у Гайнаўцы, — заявіў спадар Піскур, — ён дырэктар мэблевай фабрыкі. Можа ведаеце яго?

Наш субяседнік не лічыў сябе дачнікам, ён у выхадныя вяртаўся на радзіму даглядаць бацькоўскі дом і панадворак. Гэта покліч лесу. Нават паваленыя будоўлі не ў змозе адвярнуць яго ад бацькаўшчыны. Сапраўды, калі наведаеш Панасюкі, сузіранне назначыць змрочны цень смерці. Заняпад відавочны ў здзічэлых садах з пераспелымі і непатрэбнымі пладамі. У разваленых дамах і пахіленых, аброслых крапівой і лабадзеннем платах. У агрэсіўнай экспансіі лесу, які сляпіцай вяртаецца на пакінутыя панадворкі.

Сядзіба спадара Піскура — як ясная паляна ў гушчары. Пры хаце красуюцца вяргіні. І гаспадар такі свойскі — ён ужо не дачнік з Берасця, а быццам звычайны гаспадар з Палічнай... У Беларусі надта складана быць уласнікам хаты ў вёсцы. Праўда, дачу з панадворкам, у Белавежскай пушчы, можна набыць за 200-500 долараў. Але няшмат тут ахвотных. Чаму так? Вінаватыя законы. Паводле ўказа прэзідэнта, на дачы ўвесь год павінен панаваць узорны парадак. Калі сядзіба ў заняпадзе, чыноўнікі адпраўляюць на месца бульдозеры. Яны раскідаюць будоўлі, руіны спіхаюць у выкапаны роў ды пасля ўсяго гладка раўняюць пляц. Найгорш, калі пад гэты прысуд ідуць сядзібы назначаныя сямейнымі ўспамінамі.

Спадар Піскур не хоча пабачыць такога ў сваіх Панасюках. Хаця лёс многіх пабудоў ужо прысуджаны...

* * *

У пушчанскай вёсачцы Белая дзейнічае аграсядзіба «Польскі маёнтак».

— Як не дзіўна, нашы госці — гэта ў асноўным беларусы, — кажа Тацяна.

Тацяна і Сяргей Ісаевы набылі будынак старой школы, пабудаванай яшчэ ў міжваенны перыяд. Таму ў аграсядзібы такі назоў. Калі Тацяна паказвае здымкі, знойдзеныя на гарышчы, раптоўна саграе нейкая абяцанка, прысмак адкрыцця. Гляджу на фатаграфію школьнікаў і адчуваю нешта сваё, знаёмае.

І не памыляюся.

Некалькі дзён пазней, падмацаваная краязнаўчай і гістарычнай літаратурай пра славутую калісь Белую, распазнаю ў асобе настаўніка свайго героя. Гэта бацюшка Клаўдзій Пушкарскі. На парафіі ў Белай ён пабываў да 1939 года, адкуль перайшоў у Белавежу і праслужыў тут амаль усё жыццё. Для ўшанавання імя гэтага шанаванага святара ўдзельнікі XIII Сустрэч «Зоркі» размалявалі каляровы крыж ля Белавежскай царквы. Асвячаў яго сам епіскап Міран, які пасля загіне ў Смаленскай катастрофе.

Зараз па беларускім баку пушчы я яшчэ два разы пачула пра айца Клаўдзія Пушкарскага.

Першы раз у Занавінах, у хаце Клаўдзіі Ляўчук. Між словамі жанчына адзначыла, што яе імя па маладым бацюшку. Бацькі назвалі ў знак пашаны для іхняга святара.

Другі раз бацюшку Клаўдзія Пушкарскага я пабачыла на архіўных здымках, зробленых немцамі ў час асвячэння царквы ў Ражкоўцы. Маладзенькі святар, відавочна здыстансаваны, стаіць непадалёк нямецкага афіцэра Эміля Альберта Хербста, таго самага, які выратаваў жыхароў Ражкоўкі. Верагодна гісторыю ражкоўскага цуду белавежскі святар ведаў з першай рукі. Я сама пазнаёмілася з ім у 1993 годзе, калі жыла ў адным блёку па вуліцы Складоўскай у Беластоку. Шмат яго ўспамінаў датычыла якраз даваеннага перыяду... На жаль, я не ведала яшчэ пра Ражкоўку, ды і там на месцы не гаварылі ўголас пра векапомнае здарэнне.

У той жа Белай паўтарылася дзівосная гісторыя з удзелам добрых немцаў.

У час вайны немцы спалілі царкву і вёску. Асталіся два будынкі — школа і хата насупраць.

— Бо ў гэтай хаце насупраць жыла дзяўчына, да якой прыходзіў нямецкі афіцэр, — распавядае Тацяна Ісаева. — І ён загадаў так спаліць вёску, каб агонь не крануў хаты каханай дзяўчыны. Праз гэты раман ацалела і наша школа. Вось такая пакручастая гісторыя «Польскага маёнтка».

Я слухала Тацяну і ведала, што зноў вярнуся ў Белую па гісторыю недазволенага кахання дзяўчыны і нямецкага афіцэра.

ISSN 0546-1960